


*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 13 ліпеня 1990 г. № 28 (3542) ● Цана 10 кап.


*«А ў вёсцы свая падзея...»*

**У беларускай гістарыяграфіі «нацыянал-дэмакратамі» (скарочана «нацдэмамі») звычайна называюць асоб, якія ў 20-я—30-я гг. абвінавачваліся ў беларускім нацыяналізме. Гэты тэрмін ужываецца толькі на Беларусі і толькі для характарыстыкі беларускага нацыяналізму, але ж ягонае паходжанне не раскрываецца. Паспрабуем знайсці гістарычныя карані паходжання гэтага тэрміна.**

# НАЦДЭМАЎШЧЫНА І НАЦЫЯНАЛІЗМ: *ХІМЕРА І ФАКТЫ*

З заснаваннем розных плыняў грамадскай думкі і асабліва з заснаваннем у Расійскай імперыі ў пачатку XX стагоддзя палітычных партый, палітычная барацьба паміж партыямі і рознымі плынямі ўнутры саміх партый, жаданне кожнай партыі павялічыць уплыў на розныя групы насельніцтва, колькасць членаў і прыхільнікаў прывяло да шырокай эпідэміі «ярлыковай хваробы». Людзям з нізкім адукацыйным узроўнем цяжка было разабрацца ў шматлікіх праграмах і тактыцы той ці іншай партыі. Больш даходлівымі былі разнастайныя мянушкі, магчыма, і не зусім зразумелыя, але часам з'едлівыя, якія ляпіліся ідэйным праціўнікам і якія аб'ектыўна выпрацоўвалі ў чытача адмоўныя адносіны да гэтых «праціўнікаў». З другога боку, мянушкі прасцей было наляпіць і ў тым разе, калі не было пэўных аргументаў, каб даказаць сваю праўату.

**У 1897 г. у Польшчы была створана новая палітычная партыя «Нацыянальна-дэмакратычны саюз». Лідэрамі партыі былі Грабскі, Дмоўскі, Баліцкі, Паплаўскі, Студніцкі і іншыя. У гістарычнай літаратуры членаў гэтай партыі звычайна называюць нацыянал-дэмакратамі, часцей народаўцамі ці, скарочана, эндэкамі. Згодна з ацэнкамі сучаснай камуністычнай партыйнай гістарыяграфіі, гэта была «рэакцыйная, шавіністычная партыя польскай буржуазіі». Другі варыянт: яна з'яўлялася «галоўнай, рэакцыйнай, нацыяналістычнай партыяй польскіх памешчыкаў і буржуазіі, цесна звязанай з каталіцкай царквой». І яшчэ. Народаўцы «дэкларавалі лозунгі «класавай гармоніі» і «нацыянальных інтарэсаў», імкнуліся падпарадкаваць свайму ўплыву народныя масы».**

Спачатку партыя намагалася дабіцца незалежнасці Польшчы, але далей, «напалоханая ростам рэвалюцыйнага руху, змяніла (погляды) патрабаваннем куртатай аўтаноміі ў рамках самадзяржаўнага рэжыму». Прадстаўнікі гэтай партыі выбіраліся дэпутатамі Дзяржаўнай Думы, дзе актыўна праводзілі сваю палітыку.

У. Ленін у рабоце «Выборы в Думу и тактика русской социал-демократии», надрукаванай напярэдадні 5-га з'езда РСДРП 27 сакавіка 1907 г., пісаў: «У Думе стаяць на баку рускіх лібералаў не з палітычных перакананняў, а па меркаваннях апартунізму толькі польскія «чарнасоценцы» — партыя «нарадовых дэмакратаў», якія ў Польшчы ўсімі сродкамі, да даносаў (у 5-м выданні тут устаноўлена яшчэ слова «лакаутаў») і забойстваў уключна, вядуць барацьбу супраць рэвалюцыйнага пралетарыяту».

На 5-м (Лонданскім) з'ездзе РСДРП (сакавік — май 1907 г.) была прынята спецыяльная рэзалюцыя «Аб нарадовай дэмакратыі», у якой падкрэслівалася неабходнасць «нястомнага і бязлітаснага выкрыцця контррэвалюцыйнай, чарнасоценнай фізіяноміі і дзейнасці нацыянал-дэмакратаў, як саюзнікаў царызму ў барацьбе з рэвалюцыяй».

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, з абвяшчэннем незалежнасці Польшчы, «Нацыянальна-дэмакратычны саюз» быў перайменаваны ў «Народна-нацыянальны саюз». Як палітычная партыя, Саюз меў значны ўплыў на ўсе бакі жыцця Польшчы, а адзін з яе лідэраў Раман Дмоўскі (1874—1939), які яшчэ да рэвалюцыі быў дэпутатам Дзяржаўнай Думы, у 1918 г. стаў міністрам земляробства Польшчы, потым міністрам фінансаў, узначальваў урад рэспублікі.

Па Рыжскім міры Беларусь была падзелена паміж Польшчай і РСФСР. У Беларускай ССР і Заходняй Беларусі меліся сілы, якія лічылі прымусовы падзел Беларусі на дзве часткі незаконным і ненармальным. Дзеячы нацыянальнага руху, урад Беларусі ўважліва сачылі за падзеямі, якія адбываліся ў Заходняй Беларусі, за нацыянальным і рэвалюцыйным рухам, дзяржаўнай палітыкай польскага кіраўніцтва. Пры Інбелкульце была ўтворана спецыяльная камісія па вывучэнні Заходняй Беларусі, выдавалася адпаведная літаратура. У 1927 г. у Мінску быў выдадзены на рускай мове зборнік артыкулаў пад назвай «Западная Белоруссия». Мэта выдання гэтага зборніка, на маю думку, пераклікаецца з мэтай выдання брашуры М. Доўнар-Запольскага «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» (1919 г.), у якой гістарычна абгрунтоўвалася права Беларусі на самастойнае дзяржаўнае існаванне. Брашура М. Доўнар-Запольскага, як слушна пісаў У. Пічэта ў 1921 г., з'яўляецца «мемарыялам», памятнай запіскай, якая ставіла мэтай азнаёміць грамадскасць і ўрады Заходняй Еўропы з Беларуссю, паколькі ведалі дзяржаву Вялікае княства Літоўскае, а не Беларусь, якая была часткай гэтай дзяржавы. Выданне зборніка «Западная Белоруссия» на рускай мове значна пашырыла кола чытачоў, гаварыла ім пра мінулае і сучаснае становішча заходняй часткі Беларусі, нагадвала, што гэта спрадвеку беларуская, а не польскія землі, як гэта трактавалася ў польскай афіцыйнай гістарыяграфіі. У гэтым зборніку мы знойдзем шмат звестак па палітычнай гісторыі Беларусі (аўтар А. Цвікевіч); вялікі артыкул У. Пічэты па гісторыі, эканамічным развіцці, класавай структуры грамадства, па гісторыі адукацыі, школы, царквы, рэвалюцыйнага руху; артыкул Б. Вансоўскага, прысвечаны гісторыі і сучаснай дзейнасці палітычных партый у Заходняй Беларусі. У зборніку маюцца карты, у тым ліку этнаграфічныя. Просты пералік артыкулаў сведчыць аб тым, што беларускія навукоўцы ўсебакова вывучалі Заходнюю Беларусь.

**Пасля смерці У. Леніна І. Сталін разгарнуў шалёную барацьбу за адзінаўладдзе. Дзеля гэтага ён высунуў лозунг аб абвастрэнні класавай барацьбы пры паступовым руху да вышынь сацыялізму. Практычная рэалізацыя гэтага лозунга ў жыццё пачалася з масавага вышуквання класавых ворагаў, «левых» і «правых» апазіцыянераў, апартуністаў, нацыяналістаў і г. д. Менавіта ў гэтыя гады пачалося ганебнае цкаванне большай часткі беларускай інтэлігенцыі. Агонь быў скіраваны ў першую чаргу супраць дзеячаў навукі, літаратуры, мастацтва за руплівасць аб мове, культуры, гісторыі свайго народа. Іх пачалі абвінавачваць у беларускім ды яшчэ і буржуазным нацыяналізме.**

У 20-я гады, з заснаваннем Інбелкульту, БДУ, беларуская навуковая думка атрымала магчымасць рэалізавацца ва ўсіх галінах навукі. Работы па беларускай гістарыяграфіі У. Пічэты раскрылі, што ўжо зроблена па гісторыі Беларусі, намецілі асноўны напрамак далейшага развіцця гістарычнай навукі. А. Цвікевіч выдаў грунтоўную манаграфію па гісторыі грамадскай думкі на Беларусі ў XIX — пачатку XX ст. Няма магчымасці пералічыць дасягненні беларускіх навукоўцаў, бо іх працы з'яўляюцца пакуль што здабыткам пацукоў у спецхранах.

У 20-я ж гады з наганамі і шаблямі ўварваліся ў навуку і асядлалі яе «маладыя марксісцкія парасткі» (М. Пакроўскі), якія ў першыя пасляркалюцыйныя гады скончылі розныя хуткатэрміновыя камвузы, дзе грунтоўна падкаваліся ідэалагічна. Менавіта яны пад лозунгам аб абвастрэнні класавай барацьбы ішлі ў першых радах барацьбы «з глыбока ухозячымі нацыянальнымі каранямі» беларускай гістарычнай навукі. Вось тут і ўзнікае мянушка «нацыянал-дэмакрат», а ўлічваючы, што ў тыя гады была яшчэ і хвароба на скарочванні, дык проста «нацдэм». Калі разглядзець абвінавачванні, якія прад'яўляліся беларускім інтэлігентам, дык няцяжка заўважыць, што яны поўнасцю супадалі з ацэнкамі дарэвалюцыйнай сацыял-дэмакратычнай і сучаснай камуністычнай партыйнай гістарыяграфіяй польскага «Нацыянальна-дэмакратычнага саюза». Менавіта назва і палітычная накіраванасць дзейнасці гэтай партыі далі падставу для ўзнікнення ярлыка «нацыянал-дэмакрат».

На грунце «Інтэрнацыяналізму» ішла барацьба на два франты: супраць «контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму» і супраць «вялікадзяржаўнага шавінізму». Некаторыя гісторыкі, публіцысты, партыйныя, дзяржаўныя дзеячы ў запале крытыкі так выстарчаліся ў сваіх абвінавачваннях, што дагаворваліся да абсурду. Так, старшыня беларускага таварыства гісторыкаў-марксістаў В. Сярбента (доктар гістарычных навук без абароны дысертацыі, акадэмік АН БССР з 1931 г.), З. Поташ (навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП(б)Б, які прыйшоў у кампартыю з Бунда) і нехта Я. Сякерская надрукавалі ў газеце «Правда» (28 снежня 1930 г.) артыкул «Белорусский национал-демократизм на идеологическом фронте БССР», у якім пісалі: «Класавая барацьба на дадзеным этапе надзвычай дужа актывізавала мясцовы беларускі нацыянал-дэмакратызм, які выступае часта адзіным фронтам з вялікадзяржаўным шавінізмам супраць дыктатуры пралетарыяту». І далей: «Своеасаблівасцю контррэвалюцыйнай ідэалогіі беларускага нацыянал-дэмакратызму на дадзеным этапе з'яўляецца тое, што ён мае тэндэнцыю да ідэйнага зрошчвання з вялікарускім шавінізмам... што знайшло свой канкрэтны выраз у фактах узаемнай падтрымкі вялікарускіх шавіністаў і беларускіх нацдэмаў, асабліва ў БАН». Названыя аўтары, не саромеючыся, пісалі, што барацьба супраць нацдэмаў і рускіх вялікадзяржаўнікаў — гэта правядзенне ў жыццё ленінскай нацыянальнай палітыкі. У артыкуле ахайваюцца многія беларускія навукоўцы, дзяржаўныя дзеячы, у тым ліку і члены кампартыі, якія, па словах аўтараў, «перааўтварыліся ў агентаў контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму ў радах КП(б)Б». Сярод «ворагаў» у артыкуле называюцца прозвішчы Ігнатоўскага, Баліцкага, Прышчэпава, Жылуновіча, Некрашэвіча, Доўнар-Запольскага, Цвікевіча, Даўгялы, Гарэцкага, Лёсіка, Ластоўскага, Дурнаво і Цвяткова («вялі барацьбу супраць саветызацыі беларускай мовы, супраць гегемоніі пралетарыяту ў развіцці беларускай мовы»). Аўтары нагаданага артыкула, акрамя тэрміна «нацдэм», ужывалі і такія, як «нацыянал-апартуністы» (агенты нацдэмаў у партыі), «нацыянал-фашысты».

Тэзіс, што «нацдэмы жадалі зрабіць Беларусь фарпостам у змаганні з дыктатурай пралетарыяту», што яны намагаліся рэстаўраваць капіталізм у БССР з дапамогай іншаземнай інтэрвенцыі», што «нянавісць да сацыялізму прывяла да саюзу вялікадзяржаўнікаў і нацдэмаў», быў шырока распаўсюджаны ў беларускай гістарыяграфіі канца 20-х і ў 30-я гг.

Навукоўцы з Інстытута гісторыі партыі і Таварыства гісторыкаў-марксістаў ішлі ў першых шэрагах гэтага ганебнага цкавання беларускай інтэлігенцыі. «Выкрывацелі» былі і сярод пісьменнікаў, дзеячаў розных галін навукі і культуры. «Выкрывалі» не толькі беларускі, але і польскі, яўрэйскі, літоўскі буржуазны нацыяналізм, а таксама рускі вялікадзяржаўны шавінізм.

Сярбента і Поташ, добра прыклаўшы рукі да пагрому так званых нацдэмаў, самі аказаліся ў сярэдзіне 30-х гг. ахвярамі сталіншчыны і правялі шмат гадоў у месцах «не столь отдалённых». Пасля рэабілітацыі, у пачатку 60-х гг., на партыйных сходах у Інстытуце гісторыі АН БССР яны з абурэннем выкрывалі і асуджалі сталіншчыну (як у свой час нацдэмаўшчыну).

**Пагромшчыкі вышуквалі не толькі нацыянал-дэмакратаў, але і тых, каго можна было абвінаваціць ва «ўхілах». Так, згодна з рашэннем сакавіцкага (1926 г.) пленума ЦК КП(б)Б, пачалася праверка палітычнай дзейнасці беларускай інтэлігенцыі. У Інбелкульце А. Цвікевіч, К. Міцкевіч (Якуб Колас), Я. Лёсік былі прылічаны да нацыянал-дэмакратаў, А. Смоліч абвінавачваўся толькі ў нацыянал-дэмакратычным ухіле, І. Луцэвіч (Янка Купала) — у лева-народніцкім ухіле. У БДУ прафесара Д. Жарынава абвясцілі нацыянал-дэмакратам, у І. Перэльмана выявілі толькі яўрэйскі нацыянал-дэмакратычны ўхіл, у Я. Калітоўскага — беларускі нацыянал-дэмакратычны ўхіл і г. д. («Коммунист Белоруссии», 1990, № 4). Цяжка нават сказаць, чаго тут было больш: дурасці і лухты, ці цынізму і чалавечай подласці. Усеагульнае вар'яцтва, ахапіўшае грамадства ў сувязі з рэалізацыяй у жыццё лозунга аб абвастрэнні класавай барацьбы, усеагульная падазронасць, не проста нецярпімасць, а звярыная нянавісць да іншадумцаў, раздрабніла грамадства на варожыя групоўкі, якія ў барацьбе за выжыванне вылівалі на галовы адна другой цэбры памыяў. І ці толькі гэта...?**

Сёй-той з гісторыкаў зараз спрабуе ўскласці віну за гэты разгул толькі на некаторых адказных рэспубліканскіх работнікаў. А дзе ж быў ЦК КП(б)Б, ягонае кіраўніцтва? Няцяжка зразумець, што гэтыя ганенні на інтэлігенцыю натхняліся кіраўнікамі партыі і ўрада Беларусі. Цкаванне сотняў прадстаўнікоў беларускай навукі, літаратуры, культуры вылілася ў масавае звальненне іх з работы; камуністы былі выключаны з партыі, многія трапілі за краты, высланы ў Сібір.

Так званыя нацдэмы выступалі супраць гісторыкаў, якія спрабавалі адраджаць канцэпцыю мінулага Беларусі з пазіцый расійскай вялікадзяржаўнасці. Паказальным з'яўляецца хоць бы назва артыкула А. Цвікевіча: «Зноў «Западная Россия» («Полымя», 1926, № 2). Менавіта так у дарэвалюцыйнай рускай вялікадзяржаўнай гістарыяграфіі называлася Беларусь. Але гісторыя паўтараецца. Прадстаўнікі «Памяти», «Отечества» настойліва адраджаюць канцэпцыю гісторыі Беларусі як гісторыю «Западной России», канцэпцыю аб «трех ветвях русского народа». Так, лістоўка, якая распаўсюджвалася ленінградскай «Памятью», называлася «Кризисное состояние триединой русской нации». Што можна сказаць на гэта? Жывы курылка!

**Кожны навуковы тэрмін мае адпаведны сэнсавы змест. Але змест паняцця з цягам часу звычайна змяняецца і ўжо не адлюстроўвае першапачатковага значэння. Такое, на маю думку, здарылася і са зместам паняцця «нацыяналізм». Вядомы рускі гісторык П. Мілюкоў у рабоце «Очерки по истории русской культуры», напісанай у канцы XIX ст., спецыяльна разглядзеў змест тэрмінаў «нацыянальны, нацыянальнасць» і «нацыяналістычны, нацыяналізм». Трактоўка П. Мілюкова гэтых паняццяў грунтоўна адрозніваецца ад таго зместу, які ўкладваецца ў іх многімі сучаснымі савецкімі гісторыкамі і публіцыстамі. «Тэрмін «нацыянальны», «нацыянальнасць» ужываюцца мною, — пісаў П. Мілюкоў, — у звычайным сэнсе: адносіны да нацыі, уласцівы нацыі. Тэрмін «нацыяналістычны», «нацыяналізм» я ўжываю ў сэнсе прыродных пачуццяў: ставіцца спагадліва да нацыянальных рысаў; спачувальныя адносіны да нацыянальных асаблівасцяў». Такім чынам, паняцце «нацыяналізм» П. Мілюкоў ужываў у станоўчым, а не адмоўным сэнсе. Але нагаданае паняцце згубіла свой першапачатковы змест. Магчыма, што менавіта ў 20-я гг. не вельмі адукаваныя прапагандысты сусветнай рэвалюцыі і бязроднага класавага інтэрнацыяналізму («пролетариат не имеет Отечества»), абапіраючыся на той прынцып, што пры сацыялізме адбываецца ўсё наадварот, сказілі першапачатковы змест гэтага паняцця, ужываючы яго толькі ў адмоўным сэнсе, што з'яўляецца характэрным і для сучаснай савецкай гістарыяграфіі.**

На X з'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніл Гілевіч прапанаваў «забараніць у нас на Беларусі карыстацца сёння паняццем «беларускі нацыяналізм». Сапраўды, трэба пераасэнсаваць змест тэрміна «беларускі нацыяналізм», удыхнуць у паняцце новы, сучасны сэнс, які ўжываецца ва ўсім свеце, разумеючы «беларускі нацыяналізм» як клопат і турботу аб беларускім народзе, ягоным дабрабыце, лёсе, як гонар за свой народ, мову, культуру, разумець усё гэта як унутранае, прыроднае пачуццё чалавека.

**Юрый ДРАГУН,**
**дацэнт кафедры гісторыі СССР**
**дасавецкага перыяду**
**БДУ імя У. І. Леніна.**

**Жальнік.** Месца, дзе ўсё ахутана жалем, дзе пануе жалоба па страчаным навечна. Месца самай глыбокай цішыні і спакою. Дзе ўсе будзем. Жаласлівай жалобай жаліць гэтае слова. Ці **пошугам.** На **адным** дыханні вымаўляем. Як шугане, не паспееш аглянуцца. Бліскавічная хуткасць. Як агонь ці зорка, што падае. Ці **злодар**— вораг, ці **ледавень** — лядніх, ці **логны** — футляр.

Колькі ў нас вершаў пра журавіны? Шмат. А толькі Д. Бічэль-Загнетава напісала пра іх у вершы так: «жар-журавінкі, жураўлікі, журкі». Тут не маляўнічы пейзаж асенняга лесу, тут карціна асенняга лёсу.

Патрэбна паказаць, што бачым і недахопы ў зборніку? Ну, што ж. Знаходжу вершы, якім не веру, якія і не здзіўляюць, і не захапляюць. Так, у вершы «Ад маўклівай мядзведзевай спячкі...» вобразы і выразы «любоўная гарачка», «вястун новай радаснай буры», «намалюецца крыж на страсцях» напісаны нейкімі банальна зацёртымі фразамі. Ці нешта невыразна-безабароннае ў вершы «Постаць змянілася, тварык змарнеў». Пагрозліва-самаўпэўненае, з мадэрнізаваным праклёнам «хай разарве цябе на шматкі зграя сучасных ваўчыц» у вершы «Вочы твае зялёныя»...

Вершы са зборніка Д. Бічэль-Загнетавай «А на Палессі»... Хіба ж гэта не «па-жаночы першасныя вершы»? Хіба ёсць тут нешта ад «разважлівасці, досведу літаратурнае работы, беражліва назапашаных эмоцый»? А ўжо сцвярджаць, што гэтыя вершы характарызуюцца «прыгнечанасцю духу», зусім несправядліва. А выходзіць, што ўсё гэта, як сцвярджае С. Дубавец у артыкуле «Тры паэзіі», адносіцца і да Д. Бічэль-Загнетавай, бо яна з той самай жаночай паэзіі сярэдняга пакалення, якое закрэслена крытыкам.

**А. ПЕТРУШКЕВІЧ.**

---

**удзелам нацыянальна-культурных таварыстваў іншамоўнага насельніцтва Беларусі).**

**14. Канферэнцыя выступае з прапановай заснаваць і выдаваць сіламі канфесій Беларусі рэспубліканскі рэлігійна-асветніцкі часопіс на беларускай мове.**

**15. Канферэнцыя абавязвае ўсе арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны разгарнуць і пашырыць работу па ажыццяўленні Закона аб мовах у Беларускай ССР, а таксама прыняць удзел у складанні і рэалізацыі адпаведных рэгіянальных і ведамасных праграм (складальнікі праграм, згодна падпарадкаванасці Савету Міністраў БССР, камісіі мясцовых Саветаў, рэгіянальных органаў кіравання).**

**16. Усім арганізацыям ТБМ імя Ф. Скарыны лічыць першачарговай задачу арганізацыі беларускамоўных школ і дзіцячых садоў, дзеля гэтага актывізаваць растлумачальна - прапагандысцкую работу з бацькамі першакласнікаў і настаўнікамі школ Беларусі.**

**17. Рэгіянальным арганізацыям ТБМ імя Ф. Скарыны з новага навучальнага года рашуча ўзяцца за стварэнне і арганізацыю работы ў юнацкіх секцыях Таварыства, а таксама садзейнічаць пераходу на беларускую мову палацаў і дамоў піянераў, піянерлагераў і іншых пазашкольных дзіцячых устаноў.**

**18. Канферэнцыя звяртае ўвагу дзяржаўных органаў кіравання і планавання БССР на вострыя недахоп тэхнічных сродкаў, літаратуры, дакументаў і бланкаў, што маюць ужытак у справаводстве, якія выкананы і аформлены на беларускай мове, або будуць служыць дзеля пашырэння дзелавой беларускамоўнай пісьменнасці. Асаблівую заклапочанасць выклікае адсутнасць пішучых машынак з беларускамоўным шрыфтам, камп'ютэрных сістэм і праграм на беларускай мове, а таксама адсутнасць кадраў для абслугоўвання беларускамоўных ЭВМ, для вядзення стэнаграфіі па-беларуску. Неабходна ў якасці першачарговай меры падрыхтаваць дапаможнік па справаводстве на беларускай і рускай мовах (з паралельнымі тэкстамі) і выдаць яго масавым тыражом.**

**19. Канферэнцыя выказвае заклапочанасць дзеяннямі праваахоўных органаў у г. Мінску па праследаванні за патрыятычную дзейнасць члена гарадской Мінскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны Юрыя Віктаравіча Хадыкі, навуковага супрацоўніка Інстытута фізікі АН БССР.**

---

# ГАЛІНКА ШЫПШЫНЫ, СЦЯБЛО ЧАРНОБЫЛЮ

**Да 90-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра ДУБОЎКІ**



МЯНЕ УРАЖВАЕ твар Уладзіміра Дубоўкі — скульптурны, запамінальны, надзіва спакойны, поўны глыбіннай прыроднай моцы, прыгожай незалежнасці.

Твар патрыцыя!

На такім твары цень адразу ператвараецца ў святло. Можна ўявіць, як падабаецца такое пераўтварэнне жанчынам, і як ненавідзяць яго каты.

Знешнасць паэта па-каралеўску адкрытая і па-сялянску загадкавая. Сапраўды, нібыта «за доўгай сівой барадой схаваўся чарадзей з душой юнака» (В. Вітка).

Я гляджу на партрэт з радасцю і шкадаваннем. Мяркую, гэта не толькі маё пачуццё, а кожнага з нас, бо Уладзімір Дубоўка — заўсёдная наша радасць і заўсёднае, непазбыўнае шкадаванне.

Радасць — зразумелая.

Мы ўсё ж мелі ўслед за Баградовічам паэта[1], якому ці не боскай сілаю была шчодра ахвяравана магчымасць свабоднага палёту ў наднацыянальныя вышыні, у сферу агульначалавечай «высокай красы».

І таксама зразумелае нашае шкадаванне.

Мы страцілі такога паэта вельмі рана, яшчэ задоўга да ягонай фізічнай смерці, — і цяпер даводзіцца згаджацца з даволі сумнай высновай, што і Уладзімір Дубоўка — яшчэ адна наша няспраўджаная мара, яшчэ адзін вялікі беларускі талент з нявыяўленымі да залатога дна творчымі глыбінямі.

Не, Уладзімір Дубоўка дастаткова спазнаў тыя глыбіні і дастаткова ўзняў на паверхню чытацкай свядомасці мастацкага залатога зерня, якім надзіва зграбна аздобіў сваю лірыку і паэмы дваццатых гадоў, маляўнічыя казкі для дзяцей, цудоўна пераказаны фальклор, класічныя пераклады, а таксама пазнейшую лаканічную прозу, сабраную ў кнізе «Пялёсткі».

Але зробленае паэтам усё ж маленькая частка ў параўнанні з тым магчымым, што паэт мог бы зрабіць, каб яму на тое была доля. Тое вялікае магчымае прыкметна прысутнічае ў ягонай узвышанскай творчасці, калі ўжо мінуўся «дзіцячы» маладнякоўскі пафас, калі слова паступова вызвалялася з цянётаў палітычнай надзённасці, нацыянальнай самазадаволенасці і зацятасці; калі слова авалодвала вялікім спакоем алімпійскай сузіральнасці і ўжо адчувала на сабе чысты подых наднацыянальных вышыняў, без якіх вялікай паэзіі не бывае.

Аднак не ўсе фарбы, пакладзеныя на палатно, паспелі высахнуць, як тое палатно вырвалі з рамы, а палітру засыпалі попелам, як паэзію забралі — пакінулі, не могучы забраць, толькі мову.

З гэтай незабранай пакутніцай мовай амаль праз трыццаць гадоў паэт паспрабаваў вярнуцца да паэзіі, да сваіх ранейшых вершаў, каб, вядома ж, зноў наблізіцца да ідэалу, да свайго вялікага магчымага.

Вынік таго вяртання амаль самазабойчы. Рукой чалавека-пакутніка, які, згодна нашым эўфемістычным энцыклапедыям, з 1930-га па 1953-ы год знаходзіўся на розных (!) работах у Кіраўскай вобласці і далей за Уралам, Дубоўка стаў перапісваць, г. зн. ператвараць таксама ў пакутнікаў свае эстэтычна-шчаслівыя творы дваццатых гадоў. Вядома, у гэтым юбілейным артыкуле не варта паглыбляцца ў параўнаўчы аналіз, супастаўляючы сённяшнія варыянты Дубоўкавых твораў з тымі варыянтамі, што друкаваліся ў часопісе «Узвышша». Аднак усё ж хоць адзін узор пазнейшай аўтарскай праўкі прывесці трэба, каб мая аналогія з самазабойствам не ўтойвала ў сабе беспадстаўнай эскапады.

Вось паэма «Кругі», яе пятая страфа ў пачатковай рэдакцыі:

> Творчы шлях мой нязменна адзін:
> Я шукаю для сіл сваіх выйсці.
> Ты, Адаме[1], мне кажаш: ідзі,
> з пераломнага часу, каб выйсці!

Ёсць у гэтых чатырох радках і жывое напружанне, і свая драматургія, і — гэта ўжо з цяперашняга пункту гледжання — хваравітая рамантыка часу. Але, галоўнае, — ёсць паэзія.

І вось як «па-новаму» гэтая ж страфа гучыць у аднатомніку паэта, выдадзеным у 1959 годзе:

> Творчы шлях т о й нязменна адзін:
> ён цудоўныя славіць часіны,
> у якія іду і хадзіў
> на прасторах любімай айчыны.

Паэтычнага эфекту, вядома ж, ніякага! Усё жывое, балючае знікла, саступіла дэкларацыйнасці. Замена адной толькі літары ў першым радку — у гэтым кантэксце ўжо з'ява антыпаэтычная. Пра астатнія тры радкі, пра іхнюю «вартасць» — і гаварыць не даводзіцца.

Добра, што ў двухтомніку гэтая страфа і наступная за ёю адноўлены. Але ж неадноўлена восьмая страфа — цудоўнае, рамансавае па гучанні суседства беларускіх і рускіх радкоў:

> Калі сцісне дачасна імгла,
> ты скажы: палыхалі зарніцы,
> «и рыдала молчанием глаз
> далеко залетевшая птица...»

І ці толькі гэта не адноўлена, а то й зусім страчана? Шкада. А тым часам і сёння школьнікі ведаюць не Дубоўкаву Беларусь-шыпшыну сярэдзіны 20-ых, а Беларусь — лясную ружу канца 50-ых, якая ў іхніх у чытанках «да камунізму крокам мужным» пракладае «вечны след»...

І ўсё ж паэт выратаваўся, абараніў свой талент ад татальнага наступу гучнагалосай пустаты і афіцыёзнага одатворства. Пад татальным наступам разумею тыя легкаважныя старонкі, напрыклад, у зборніку «Палеская рапсодыя», якія безразважна аддадзены былі на ўслаўленне так званых сацыялістычных пераўтварэнняў на Палессі. Паэт выратаваўся дзякуючы перш за ўсё перакладам і фальклору. У той жа «Палескай рапсодыі» — лепшыя тыя старонкі, на якіх змешчаны апрацоўкі народных казак і паданняў, а таксама пераклады з Ду Фу і Байрана.

Усё гэта сведчыць аб адным: патэнцыял культуры і адукацыі заўсёды ахвяруе таленту ўласцівы яму голас. Дубоўка ж бліскуча валодаў тым патэнцыялам, здабыўшы яго пад педагагічным наглядам самога Брусава.

І ці не ўплывам лідэра сімвалістаў можна тлумачыць Дубоўкава імкненне «ў свет», да творчага дыялогу з Шэкспірам і Байранам, імкненне да таго, што ў гэтым артыкуле называлася наднацыянальным? Пытанне не патрабуе адказу, бо ўсё гэта так, бо Дубоўка, як ніхто з нашых паэтаў, разумеў: нацыянальнае з наднацыянальным не ўтвараюць нейкае заклятае раздарожжа, якое выводзіць на згубны шлях. Якраз наадварот. Утвараецца шлях да творчай і, магчыма, жыццёвай ісціны. І калі йсці па ім, розум падпарадкоўваючы сэрцу, а цела ахоўваючы душой, — то шлях гэты прывядзе да ўдзячнага выніку.

Дубоўка стварыў поўнагалосую паэзію, і я вельмі шкадую, што ён не паспеў стварыць поўнагалосай прозы. Але як ён дакладна назваў свой лепшы празаічны зборнік — «Пялёсткі»! Так, ягоная паэзія — цэлая кветка, гэта ўсё тая ж цудоўная шыпшына. А проза — менавіта пялёсткі, яна сваёй канкрэтнай кветкі-эмблемы не займела.

Пялёсткі — любімае слова паэта. Часам яно сімвалізуе згасанне, смерць. У адным з ранніх вершаў, звяртаючыся да кветкі-жыцця, паэт сумна прамовіў: «Твае пялёсткі лёс у свет цярушыць: адзін, другі...». Я думаю, што гэта эпіграф да ўсёй ягонай прозы.

Як і кожнаму значнаму паэту, Дубоўку таксама быў дадзены талент прадбачання, лірычнага прароцтва. Футуралагічныя матывы ягонай лірыкі ўлічвалі вопыт народнай паэзіі, яе багатую «батанічную» лексіку ад сініх добрых васількоў да шызых паганых палыноў.

26 красавіка 1986 года, калі над намі ўзвіўся чорны сцяг Чарнобылю, мы ўспомнілі пра апакаліптычную зорку палын і ўспомнілі таксама, што чарнобыль — гэта й ёсць палын, адна з яго разнавіднасцяў. Неверагодна жахлівае супадзенне!

А прыхільнікі беларускай паэзіі ў тыя дні ўспаміналі Дубоўку...

Будучыню Беларусі і сваю ўласную будучыню паэт Уладзімір Дубоўка бачыў менавіта пад знакам чарнобылю, пад знакам гэтай звычайнай чырванавата-бурай расліны, што пышна расце на нашых пустках і каля нашых дарог і сімвалізуе незвычайна страшную бяду.

У 1922 годзе дваццацідвухгадовы паэт напісаў верш «Спагадае хто бяздольнай», верш-спачуванне пра дзяўчынку-сірату, якую чакае нялёгкая вандроўка:

> І па сцежках, па дарожках,
> дзе трыпутнік і чарнобыль,
> пройдуць босанькія ножкі
> ўсё да долі, доля ж — воддаль...

Хто ж гэтая безыменная дзяўчынка-сірата, якую ў вершы не шкадуюць чужыя людзі і перад якой паэтам ставіцца зусім недзіцячая мэта: «...ідзі наперад цераз цемру, проці змроку»?

Наша Беларусь?

Так.

Гэта ёй, Беларусі, наканавана прайсці там, «...дзе трыпутнік і ч а р н о б ы л ь»; гэта для Яе паэт пакідае надзею на долю, якая ўсё яшчэ — в о д д а л ь.

Праз тры гады Беларусі-шыпшыне зноў будзе абяцана тая ж надзея, але ўжо заснаваная на трывушчасці, нацыянальнай моцы:

> У ветры дзікім не загінеш,
> Чарнобылем не зарасцеш.

Веру, паэтавы словы спраўдзяцца.

Але, цікава, якую надзею ў тыя дакалгасныя дваццатыя гады Дубоўка пакідаў сабе асабіста?

Думаю, што ніякай.

У 1927 годзе паэт сказаў: «Напэўна, я скора ўсе сілы аддам паміж палыноў, сухазелля».

Заўважце: паміж п а л ы н о ў!

Для Дубоўкі такое ўдакладненне зусім невыпадковае.

Тое фатальнае «скора» не забавілася, прыйшло праз тры гады — 20 ліпеня 1930 года паэта арыштавалі, павялі ў палыны, у нечалавеча доўгую маўклівасць.

Дзень нараджэння і дзень арышту ў Дубоўкавым лёсе стаяць вельмі блізка, паміж імі няма й тыдня. Сёлета мы святкуем дзевяностагоддзе з дня нараджэння паэта, а нястомныя ворагі Беларушчыны могуць адсвяткаваць шасцідзесяцігоддзе з дня літаратурнага забойства Уладзіміра Дубоўкі. У гэтыя ліпеньскія дні мы з імі сустрэнемся над магілаю песняра. У нашай руцэ будзе галінка шыпшыны, у іхняй — сцябло чарнобылю.

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК.**

---

[1] Можа, нават і не аднаго, калі ўспомніць «еўрапейца» У. Жылку.

[1] Адам Бабарэка.

Алесь **КАЖАДУБ**



# ЛОЎЧЫЯ

АПАВЯДАННЕ

Да вас яшчэ прыходзіць адчуванне блізкага шчасця? Так-так, тое самае адчуванне, калі ты прачнуўся — а шчасце вось яно, зусім побач, працягні руку, альбо дакраніся да яго языком, альбо прылашчыся позіркам, а то і проста патрыся шчакой, як аб футра каўняра на матчыным паліто? І неабавязкова гэта адбываецца ў сонечную раніцу, калі ўвесь пакой, уся хата плывуць у рацэ святла, на сценах і на падлозе скачуць зайчыкі, і ты ведаеш, што там, дзе дражняцца з табой зайчыкі, асабліва цёплыя дошкі падлогі, ты ўжо адчуваеш іх пяткаю, і ляціць долу коўдра, і быццам ужо не ты, а нехта іншы гарцуе козлікам па хаце, верашчыць, становіцца на галаву, куляецца?.. Ці нават ужо амаль вусатым здаравілам ты падхопліваешся прыпаначчу, прыўзнімаешся на локцях — і глядзіш, глядзіш перад сабой, бо цёплая і густая хваля шчасця абрынулася на цябе, падхапіла, панесла, — а куды?.. Хваля кацілася па ўсім белым свеце, і ты, з'едліва-дасціпны юнак, разумнейшы за дарослых, бо ўжо апусціўся колькі разоў у патаемныя глыбіні свайго «я», цяпер угдядаешся перад сабой, стараючыся апошнім высілкам, хоць бакавым зрокам, хоць трэцім вокам на цемені — яно там ёсць! — ухапіць тую нематэрыяльную субстанцыю, той фантом, той прывід, пра які не трэба гаварыць, што гэта — шчасце.

Вы ўспомнілі сябе, лоўчыя шчасця?..

— Спачатку, калі прыйшоў немец, усе, канечне, абрадаваліся.

Баба Маня збірала на стол, выносіла з кладоўкі салёныя грыбы, сала, сальцісон, даставала з печы сырнікі, бразгала ў судніку посудам. Дзед Іван сарваў з вянка, што вісеў на перасове пры печы, некалькі цыбулін, накроіў хлеб, цяпер сядзеў, паклаўшы рукі на калені, чакаў. І мы ўсе чакалі. Намерзліся за дзень на рэчцы, я нават сунуўся ў ледзяную ваду, цяпер кратаў сябе за шчаку — абазваўся зуб, залячыць які ўсё не было часу.

Мы выбраліся на сваю раку сярэдзінай лістапада, ніколі так позна сюды не выбіраліся, і мусілі ўсё ж прасіцца начаваць у хату. Позневосеньская ноч злейшая ад любой іншай, ніякае вогнішча не ўратуе. І справа нават не ў холадзе. Кожны з нас ведае, як паставіць палатку, папярэдне зрабіўшы пасцілку з яловых лапак, як нагрэць у прысаку вогнішча камень — не вялікі, але і не надта малы, як закаціць яго ў спальнік, і не пад галаву, канечне, а ў ногі. Праўда, пасля такіх начовак рэдка які спальнік аказваўся без дзіркі, усё здаецца, што камень яшчэ захалодны, ты яго добра нагрэў, закаціў разам з сабой у спальнік, задрамаў — і прачнуўся ад паху паленага. Аднак і без гарачага каменя не заснеш.

Дык вось, як змагацца з холадам, мы ведаем. Але позняй восенню паветра не проста халоднае, яно волкае, цяжкое, насычанае марознай вільгаццю, якая прабірае да самых касцей, і сялянская хата ў такое надвор'е не проста паратунак. Яна — рай, той самы рай, біблейскі.

Зараз мы — трое даўніх сяброў, некалі разам вучыліся, хоць і па розных спецыяльнасцях, аднак у адным інстытуце, — сядзім у цёплай, поўнай сялянскіх пахаў хаце, памалу адаграемся. Пахне паранай бульбай, бярозавымі дровамі, цыратай на стале, кажухамі, што вісяць на тым жа перасове, вячэрай. Самы востры пах яечні з салам, яна сквірчыць на электрапліце ў кухні-баковачцы, ад яго гоніць сліну, якую міжволі зглытваеш. Задубелы, абсівераны пад ветрам твар гарыць, вочы набрынялі слязой, апухлыя пальцы рук ледзь гнуцца, але ўсё роўна добра.

Сяргей, які прывёў нас у гэтую хату — ён неяк раззнаёміўся з гаспадарамі некалькі гадоў назад, купляў у іх малако і бульбу, — сядзіць упэўнена, заводзіць размову, а мы з Паўлам маўчым. Маўчаць — лепей, чым гаварыць.

Сяргей, зрэшты, падбіўся да гэтай хаты не з-за бабы Мані і дзеда Івана, гасцінных, руплівых, звычайных тутэйшых людзей. Прывабіла яго іхняя ўнучка Наташа. Тады, гадоў ужо пяць ці сем назад, ён ішоў вуліцаю да магазіна — і раптам убачыў на агародзе дзяўчыну. Рыжавалосую, шаравокую, налітую здароўем, за шчочку, як той казаў, не ўшчыкнеш, а галоўнае — усмешлівую, зубкі так і бліскаюць за пунсовымі вуснамі, нічым іх не трэба фарбаваць, тыя вусны. Ну і яшчэ ў ёй нешта было, у Наташы, тое самае, з-за чаго спыняюцца хлопцы і прахожыя мужыкі. А ў Сяргея, між іншым, у самога жонка прыгожая і разумная, але гэта справы не тычыцца. Спыніўся Сяргей, абапёрся на агароджу, паставіў побач свой спінінг, паклаў сетку з рыбінамі — і «верыце, мужыкі, нікуды мне адсюль ісці не захацелася, зусім». Хто ж супраць? Любы з нас можа ўспомніць падобныя прыпынкі.

Як не кожныя выхадныя ездзіў Сяргей на рыбу ў тое лета, і ў адпачынак выраваўся на паўтара тыдня, без жонкі і без дзяцей. Пазнаёміўся з бабай Маняй і дзедам Іванам, некалькі начэй начаваў у іхняй адрыне, схуднеў, неяк дзіўна закасіў запалым вокам. Але ж каб назусім застацца там, дзе табе спадабалася, аднаго жадання мала. Яшчэ нешта трэба.

Прайшло лета, мінулася. І вось ужо за спінаю пяць летаў ці нават сем, Сяргей ведае, колькі, але маўчыць.

Наташа зараз у суседнім пакоі за сценкаю ўкладвае спаць дзіця, напявае. «Апсік, апсік, каточак, злавіў рыбку за хвасточак. Ці самому есці, ці дзіцятку несці? Еш ты рыбку сам, каток, ідзі з хаты за парог, не мяшай дзіцяці спаць, а мне Кацьку калыхаць».

Сяргей гаворыць з бабай Маняй, я слухаю Наташыну калыханку, Павел маўчыць, нечаму ўсміхаецца ў бялявую з рыжынай бараду.

Трэба сказаць, даўно мы не бачыліся — Сяргей, Павел і я. Сяргей нарэшце абараніўся. Мы, праўда, са студэнцкіх часоў звалі свайго сябра-біёлага «дохтур», верылі, што гэты сапраўды выб'ецца ў дактары навук, навучыцца не толькі спірт разліваць з дакладнасцю да грамулькі, незалежна ад ёмістасці, але і яшчэ нечаму. Ды вось непярэліўкі — Сяргей толькі-толькі, праз пятнаццаць гадоў пасля універсітэта, абараніў кандыдацкую.

— На каго дзіця падобнае, дохтур? — пытаецца Павел.

Але Сяргей недачуў. Пасля чэрапна-мазговой траўмы, атрыманай, як у кіно: ішоў з работы, паслізнуўся, упаў, ачомаўся — адно вуха не працуе, ён многае недачувае. Мы да гэтага прывыклі, як і да жарцікаў Паўла. Намеснік дэкана факультэта, а дасюль адчувае сябе членам студэнцкай каманды клуба вясёлых і знаходлівых. Якраз на нашыя гады прыпаў разгром гэтага клуба. Здавалася б, няхай маладыя цяпер кпяць і пасмейваюцца, мы ж пасядзім каля тэлевізара і паглядзім, — Павел па-ранейшаму жартуе. Дзе б ён ні быў і што б ні рабіў — выдумляе жарты. Я ажно чую, як парыпваюць ягоныя звіліны.

Я ж, трэці ў гэтай кампаніі, зусім адрэзаная скібка: і займаюся невядома чым, нейкаю пісанінаю, і жыву ў далёкім горадзе, далёкім і чужым. Аднак жа вось запляваў нашую зямлю Чарнобыль, засыпаў атрутаю палі, лясы і рэкі — і мяне пацягнула сюды, нічога не магу з сабой зрабіць. Не прайшло і трох гадоў пасля аварыі, як з'явіліся ў газетах карты, дзе пазначаны найбольш забруджаныя мясціны. У гэтых раёнах столькі кюры, у тых грохі болей, тут зусім чысценька, да Чарнобыля ўсяго шэсцьдзесят кіламетраў, але чыста, нават грыбы есці можна. Я ўбачыў тыя карты, прапусціў іх праз сябе — зноў тарганулася сэрца, збілася з рытму, закалола, выплёўваючы запечаную кроў, — і пачаў званіць сябрам, распытваючыся пра нашую раку. Так, амаль на ўсёй рацэ ляжала брудная пляма, і ліпень, наш рэлікт, наш апошні з магікан, які не паддаўся дваццатаму стагоддзю, выжыў, цяпер ужо быў іншым ліпенем, паслячарнобыльскім. Рака засталася такой жа чыста-халоднай, а ліпень змяніўся.

І тады я сказаў, што нам трэба ехаць на рыбу. Сябры мяне падтрымалі — інакш якія б яны былі сябры?

Паехалі мы аўтобусамі, як і ў тыя часы, ранейшыя. Першы аўтобус да Ракава, там перасаджваемся на валожынскі, у Пяршаі сходзім і ідзём пешшу каля сямі кіламетраў. Маршрут настолькі знаёмы, з заплюшчанымі вачыма можам прайсці. Дарэчы, ніхто з сяброў не спытаўся, чаму мы не едзем на маёй машыне. Што і казаць — сябры.

А надвор'е нас такі аддзячыла. Якраз на падыходзе да ракі з-за нізкай шэрані аблокаў вызірнула сонца — і асіяла раку, дубы на высокім беразе, нядаўна перакрытую страху хаты на хутары, колькі разоў мы паўз гэты хутар праходзілі, а дасюль не ведаем, хто ў ім жыве. Здаецца, ляснік. На рацэ зайгралі перакаты, вось і ліпень бліснуў срэбным бокам на адной з быстрыняў, зашорхала пад нагамі выпетралае дубовае лісце. Аб'інелая трава, месцамі яшчэ зялёная, пад гэтай кволай усмешкаю ўздыхнула, набрыняла вільгаццю, разгарнулася, заблішчала. Хрупаў далікатны, падобны да павуціння, лядок у калюжынах, распускаўся вадою ў ямінах слядоў. Мы прайшлі праз дубовы гай, мінулі лазняк на пясчанай лукавіне, абышлі хутар, загарадкі якога падбіраліся да самай вады, прадзерліся праз зараснікі дзікіх парэчак, амаль такіх жа густых, як і ўлетку, нарэшце выйшлі да вёскі, у якой некалькі гадоў назад ледзьве не застаўся наш дохтур. Па дарозе я два разы здуру сунуўся ў ваду, стараючыся пусціць нажыўку па быстрыні, і цяпер абмацваў скіўцу, баючыся, як бы да раніцы не перакрывіла твар.

Улову як такога ні ў аднаго з нас не было — тры ліпені ў мяне, два ў Сяргея, Павел зусім пусты. Ды хіба па ўлоў мы сюды ехалі? Нездарма гавораць, што на старыя шляхі лепш не вяртацца. Мы гэтае правіла парушылі.

Гаспадары, баба Маня і дзед Іван, дужа здзівіліся, убачыўшы ў сваёй хаце Сяргея. Відаць, ён ужо выпаў з іхняй памяці, — і раптам устаў перад імі, як упамінак. А яны не заўсёды радасныя, упамінкі. Але тым не менш мы сядзім за сталом у цёплай хаце, цьмяна пабліскае бутэлька гарэлкі, адразу выстаўленая на стол Сяргеем, і дзед Іван, раскурваючы самакрутку — пах хатняга тытуню намнога прыемней, чым пах гарадскіх цыгарэт Паўла, — зрэдку затрымлівае на ёй позірк, як бы здзіўляючыся: а што гэта на стале тут стаіць?! Ён нецярпліва шкрэгае па падлозе ботамі, паварочваецца ў бок кухні, змахвае са штаноў тытунёвае крышыва, але на слова так і не наважваецца. Мусіць, не так шмат гэтых слоў у дзеда Івана, каб раскідвацца імі з-за кожнай драбязы. А баба Маня гаворыць, на кухні, у пакоі, крычыць нешта Наташы, якая ніяк не дасць рады дзіцяці. Ну і ўрэшце даходзіць яна да немца, бо ў беларускай сялянскай хаце пра немца гавораць нават у часы галоснасці і ўсеагульнага пакаяння.

— Спачатку, калі прыйшоў немец, усе, канечне, абрадаваліся...

Павел неўразумела глядзіць на мяне, на Сяргея, на дзеда Івана, пасля пытаецца:

— Як гэта — абрадаваліся?

— Дык зямлю ж немец даваў, — як маломy, тлумачыць баба Маня. — Іван на фронце, а зямлю ўсё роўна давалі. У нас і пад палякамі зямля была, няшмат, але была.

Дзед Іван выпускае з рота клуб дыму, ківае галавой — была.

— Значыць, немец для вас быў лепшы за нашых? — хоча разабрацца Павел.

— Дык я ж кажу — спачатку!.. — ажно спыняецца з патэльняй у руках баба Маня.

— А потым? — уздымае бровы Павел, яго не адразу раскусіш — смяецца ці на самай справе не цяміць.

— Зямля зямлёй, а за людзей ён нас не дзяржаў, — падціскае вусны баба.

— Таму і ў партызаны пайшлі? — падштурхоўвае яе Павел.

— Партызаны!.. Тут не дужа каб выбіраць было. Калі не ў партызаны, дык у паліцыю забяруць.

— А вы за каго былі?

Баба Маня са шкадаваннем глядзіць на Паўла, гаротна ўздыхае:

— Пры чым тут мы... Гэта ж не гулі якія, вайна. Мяне з сястрой расстрэльвалі, я выпаўзла, а Наста там засталася, у яме... Вось ты б жыў пад немцам, пад ягонае гергятанне?

Павел паблажліва ўсміхаецца ў бараду, пазірае на нас: вось цёмная баба, я ёй пра адно, яна пра другое.

— Не, — гаворыць ён, — я б не жыў.

— А я каторы раз абдумаюся, — абводзіць яго доўгім позіркам з галавы да ног баба Маня, — цяпер бы людзі хоць пад немцам жылі, хоць пад французам. Не ўсе, канечне, а многія.

— Давайце лепш за вашае здароўе, — перарывае няёмкае маўчанне Сяргей, адкаркоўвае бутэльку. — За вас, за вашу ўнучку і праўнучку... ну і за ўсё астатняе.

Як на мой зуб-вярэду — дык сама тое. Дзед Іван падсоўвае міску з грыбамі — закусвай. Пад відэльцам коўзаюцца чарнушкі, зялёнкі, падзялёнкі, апенькі, у гэтых лясах найлепшыя для засольвання грыбы. Праўда, нядаўна надрукавалі спецыяльную карту, на якой пазначана, дзе ў Беларусі можна браць грыбы, а дзе не. Прычым, розныя грыбы атруту набіраюць у рознай колькасці. Ці ведаюць дзед Іван з бабай Маняй пра забруджанасць сваіх зялёнак з падзялёнкамі? Але ж хіба запомніш усе тыя бэры, кюры, зоны? Тут назву грыба ведаеш — ужо добра. А грыбы смачныя, хрумсцяць, асвяжаюць рот, пасля іх толькі падкладвай бульбачку, яечню, сала, вось сырнікі са смятанай.

— А павячэраўшы — ужо і гаворка крыху іншая, спакайнейшая і лагаднейшая.

— Што ў вас пра зямлю гавораць? Аддадуць людзям зямлю ці не?

Гэта зноў Павел. Ён і ў нашым вясёлым клубе заўсёды выдумляў хохмы, быў, так бы сказаць, мазгавым цэнтрам. Памятаю такую ягоную хохму-плакат — у нас (гэта значыць, у філолагаў) многа нявест, а ў вас (гэта значыць, у фізікаў) — зяцькоў. Зяцькоў — прозвішча тагачаснага дэкана фізфака. Ну і другое — відаць, намеснік дэкана Павел настолькі рэдка выязджае ў народ, што стараецца выгаварыцца з ім па поўнай праграме. Ды і здзіўляе яго, гарадскога чалавека, гэты вясковы народ. Гаворыць не па-руску. Думае набакір. Смяецца там, дзе не смешна, і не смяецца з хохмаў. Каб не гасціннасць і прастата — зусім прапашчы быў бы народ.

— Аддадуць людзям зямлю ці не?

— Зямлю?.. — прысаджваецца на ўслон баба Маня. — А хто ж яе аддасць? Яна ў нас нічыя, значыць, і аддаваць няма каму. Ды і хіба дурны той калгас, каб самога сябе распусціць? Там жа і старшыня, і парторг, і аграном з заатэхнікам, бухгалтараў цэлы пакой. Што ж яны рабіць будуць, калі зямлю раздаць?

— У вас вунь многа хутароў захавалася, — сказаў я. — У газеце напісана — пад тысячу хутароў на раён.

— Ёсць хутары, як не быць, — згадзілася баба Маня. — Але ж і хутары лядашчыя. Слабыя хутары, нягеглыя. Вы малады яшчэ, не ведаеце, каго ў нас пасля вайны ссялялі.

— Чаму не ведаем? — заёрзаўся на табурэтцы Сяргей. — Хутаранцаў ссялялі, гаспадароў.

— Гаспадароў, ды якіх? — прыжмурылася баба Маня. — Усіх млынароў вывезлі, kавалёў, шаўцоў, бондараў... Зямля без майстроў засталася, хто сані або калёсы зладзіць, хто пашые хамут? Іван вунь сам вучыўся кажух кроіць, на ўсю вёску ніводнага краўца. А як на хутары без млынара ды без бондара пражывеш? Як?

— Не даў нам бог на сваёй зямлі пагаспадараваць, — падняў галаву дзед Іван, — і гэта былі ці не першыя ягоныя словы за ўвесь вечар. — Пра нас як напісана? Я мужык-беларус, пан сахі і касы... А ў мяне не толькі сына, нават унука і праўнука няма. Вось і кажу — не даў бог...

Сябры паглядзелі на мяне — правільна пра вас напісана? Пан сахі і касы?

— Але, — пацвердзіў я.

Сяргей у нас родам з Кубані, станічнік, цёмныя кучаравыя валасы, сінія вочы, белазубая ўсмешка, адразу скажаш — паўднёвая. Мо таму ён і спыніўся каля Наташы, што ў іх абодвух усмешкі падобныя? Але маўчыць Сяргей, не ўспамінае ні пра ўсмешку, ні пра сябе ранейшага. Павел таксама нетутэйшы, нарадзіўся і вырас на Волзе. Яго бацькі беларусы, але, як і большасць беларусаў на чужыне, яны не перадалі сыну сваёй мовы. Пра цвёрдае «ч» і «р» і гаварыць няма чаго. Русак! І тым не менш абодва закараніліся на беларускай зямлі, прыдбалі мінскіх жонак і цешчаў, у Сяргея два сыны, у Паўла пакуль што адзін. Апошнім часам беларускае пытанне не на жарты зачапіла іх, і не скажаш, што станічніку Сяргею яно менш баліць, чым беларусу Паўлу. Разбіраюцца мужыкі, крэкчуць, спрачаюцца, аднак пакуль што не б'юцца. Да мяне прыслухоўваюцца, але без піэтэту. Маўляў, самі з вусамі, і нікуды вы ад нас, рускіх і прарускіх, не дзенецеся. А я хіба супраць? Якраз добра, што самі. Толькі свая дарога і выведзе.

— Я гэты наш славуты Купалаў верш «А хто там ідзе?» ужо дарослым упершыню прачытаў, — гаворыць Павел. — У рускіх школах яго не вучаць. І нешта мяне ў ім спыняе, быццам стрэмка нейкая коле. «А чаго ж, чаго захацелася ім, пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?..» Нейкі сусветны і ўсеагульны духоўны стрыптыз. Цэлы народ нясе на паказ сваю крыўду! Табе не здаецца?

Мне не здаецца. А калі б і здавалася, я гэта ніколі б не паказаў. Комплекс беларуса, якому з першага дня, і асабліва на ягонай радзіме, убіваюць у галаву, што бяднейшага краю на зямлі і не было. Лапці, каса, жмых замест хлеба, поўная непісьменнасць і поўная паслухмянасць. Хто хацеў, той і ездзіў на гэтым народзе. Вось толькі замкі абражаюць вочы нашых духоўных начальнікаў, і старажытныя гарады, і полацкая Сафія з гародненскай Каложай, і скарынінскія кнігі, на паўстагоддзя старэйшыя за кнігі Фёдарава... А беларускія майстры, якія будавалі маскоўскі Крэмль і Круціцкае падворышча ў Маскве ж, відаць, падносілі там каменні і не больш. Татальнае адзічэнне агарнула найперш нас, калі не бачым таго, што перад вачыма нашымі. Не вер вачам сваім, і ты будзеш дапушчаны туды, дзе халопамі не смярдзіць.

— Ты паляўнічы домік Тышкевіча памятаеш? — пытаюся ў Паўла.

— А што домік? — не разумее ён.

— У адрозненне ад той самай крыўды на паказ яго хаваюць. Яшчэ некалькі гадоў — і зусім знікне, ні знаку не застанецца.

Паляўнічы домік Тышкевічаў у пушчы мы знайшлі выпадкова. Спускаліся ўніз па рацэ, аблоўліваючы ямы, віры, перакаты, зрэдку вышмаргвалі з вады ліпеня, а то і двух запар, і рака — з кожнай новай павароткаю ўсё больш прывабная, — не адпускала ад сябе, зацягвала на самае дно. Вада ў ёй халодная нават у спёку, абхоплівае, як абцугамі, ногі, набіраецца ў боты з высокімі халявамі, — тады мы мусім вылазіць на адходністы бераг і выліваць з ботаў ваду, ужо цёплую. Прайшлі вусці двух незнаёмых ручаёў, бабровыя хаткі, бярэзіны і вольхі, нядаўна падмытыя хуткай вадой, з яе тырчыць яшчэ зялёнае голле. Рака жыла сваім жыццём, і ты, які спускаўся па ёй разам з вадой, таксама станавіўся як бы рачным, цябе не баяліся рыбы, выстрэльвалі з-пад самых ног, над тваёй галавой сноўдалі птушкі, на плечы і на вудзільна сядалі сінія стракозы, прызнаўшы за свайго, і нават вавёрка ў кустах ляшчыны пасвойску пазірала са стромы, кідала табе даспелы арэх. Гоман вады запаўняў усё наваколле, і тым не менш ты чуў яшчэ і піск камара, і куванне зязюлі, і мяккі лопат крылляў матылька паўлінава вока, што доўга заляцаўся да цябе, набіваючыся ў сябры.

— Зірні, замак, — сказаў Сяргей.

Я павярнуўся. Сапраўдны замак вышіраў з кустоў, узносіўся над імі, адсоўваючы ад сябе пушчу. Руіны змрочна глядзелі на мяне. Сцены замка даўно рассыпаліся ў бязлюдныя кучы, вежаў ужо і не засталося, падмурак прападаў у зарасніках лопухаў, — аднак гэта быў замак.

Пазней адзін мастак расказаў мне, што ў пушчы стаяць рэшткі паляўнічага доміка графаў Тышкевічаў. «Усяго два паверхі, але дваццаць чатыры пакоі, і вакол стайні, псарні, хаты егераў. Напярэдадні рэвалюцыі ў стайнях было адзінаццаць чыстакроўных арабскіх скакуноў! Пра інтэр'еры, браце, ужо і не кажу...» Мастак, чалавек, увогуле, суровы, біты жыццём, не проста шкадаваў, што ніколі не ўбачыць тых інтэр'ераў, — ён плакаў.

— ...Ты хочаш сказаць, — гаворыць дохтур Сяргей, — што гэты народ быў не толькі сялянамі і абслугай?..

— Ужо сказаў, — папраўляю яго я.

— Ды не, я не супраць, — запальвае цыгарэту Павел, — старажытнейшая зямля. Але свайго мала што захавала. Вунь і мову на сталічных вуліцах не пачуеш. Вы, што гаворыце на ёй, як ліпені ў беларускіх рэчках. Рэдкія.

— Паслячарнобыльскія ліпені, паслячарнобыльскія мы, — мармычу я.

— А ці чулі вы, — нахіляецца да мяне баба Маня, — што людзей у Канаду будуць перасяляць? І ў гэту, як яе...

— У Аўстралію, — гмыкае дохтур.

— Во-во! У нас пляткарылі пад магазінам...

— Перасялімся, калі на сваёй радзіме нікому не будзем патрэбны, абавязкова перасялімся, — гляджу я на гадзіннік. — Праўда, калі тут не будзем патрэбны, дык няўжо там нам узрадуюцца?

— А некаторыя хоць зараз гатовыя ехаць! — зацягвае пад барадой вузел хусткі баба Маня. — Аж пішчаць, так шчэміцца.

— Відаць, грошай у людзей багата, — пазяхае Павел.

— Якія грошы?! Забясплатна хочуць. Там, кажуць, і зямлю дадуць, і грошай на гаспадарку. А я дык не веру. Слухала, слухала Ролічаву Зінку, тады кажу: «А от прышаўзе да цябе іхні павук ды ўкусіць». Яна выгляду не падае, але па вачах бачу — баіцца. «Які гэта павук?» — «А такі, — кажу, — іхні павук. Мы да сваіх павукоў прывыклі, а ўжо як ад іхняга ўратуешся, то і не ведаю». Пабегла дахаты, ні разу не азірнулася.

Усе смяюцца, нават дзед Іван адкідваецца на табурэтцы, кашляе. Сапраўды, нам толькі іхніх павукоў не хапае. А свае як жа? На Беларусі і пчолы як гусі...

У пакой нячутна ўвайшла Наташа, прысела побач з бабай на ўслон. Заснула ўсё ж малая. Твар маладой жанчыны стомлены, але вочы вясёлыя. Нездарма яна спадабалася нашаму дохтару. Відаць, кожны з нас думае пра адно і тое ж, Наташа чырванее.

— Вы, дзед, скардзіліся, што ў вас унука няма, — падміргвае нам Павел. — Унучку трэба прасіць!

Баба Маня ніякавата ўсміхаецца, падхопліваецца, бярэ са стала брудныя талеркі і выносіць у кухню. Дзед Іван засяроджана корпаецца ў кішэні, дастае паперу, дзярэ на роўныя кавалкі, насыпае на адзін з іх з капшука тытунь, размінае, крышыць яго, ліжа языком самакрутку, каб не раскруцілася.

— Сёння вячоркі ў нас, — пазірае чамусьці на мяне Наташа. — Не хочаце паслухаць, як мы спяваем?

— Каб быў трохі маладзейшы, — штурхаю я пад сталом дохтура, — абавязкова схадзіў бы. З такой прыгажуняю...

Дохтур сядзіць, як мыла з'еўшы, ні на каго не глядзіць.

— Мяне не возьмеце? — разгладжвае бараду Павел, з-пад валасоў паказваюцца яркія, выразна акрэсленыя вусны.

— Вам на вячоркі трэба з жонкай хадзіць, — па-ранейшаму глядзіць на мяне Наташа.

— Чаму?!

— Таму.

— Позна ўжо, — кажу я. — Заўтра ўставаць рана.

— Спаць на падлозе прыйдзецца! — крычыць з кухні баба Маня. — У нас і ложкаў столькі няма.

На падлозе дык на падлозе. Спальнікі ў нас ёсць, замест падушкі кулак пад галаву. Галоўнае — цёпла. А на месцы Сяргея я абавязкова пайшоў бы на вячоркі. Ды сваю галаву другому чалавеку не прыставіш. Па ўсім відаць, мужа ў Наташы няма. Быў, як той казаў, ды сплыў. Вунь як замітусіліся дзед з бабаю, перажываюць, бедныя. А ўнучка ўсё яшчэ падыходзіць, як цеста, самая пара яе на чарон ды ў печ. Калі не перакісне, найлепшы з караваяў спячэцца. Дзе тыя лоўчыя, якія палююць на сваіх сарнаў у пушчы? У аднаго лоўчага, добра бачу я, рогі ўжо збіліся. Сцерліся рогі, ці нават паляцелі долу, непатрэбныя яны яму — вось і паляцелі. А адну з сапраўдных сарнаў — агніста-рыжую, танканогую, з точанай галоўкаю і глыбокімі здзіўленымі вачыма — я недалёка ад гэтай хаты бачыў. Ішоў праз кусты ў абалоне ракі, не сказаць, каб і таіўся, трашчала пад нагамі сучча, разгойдвалася голле, пырхалі ва ўсе бакі спуджаныя птушкі, — і раптам вочы ў вочы з сарнаю. Яна аб'ядала з куста маладое лісце, стаяла па грудзі ў траве, торгала вушамі, адмахваючыся ад майго трэску і шолаху, але ўсё ж мусіла павярнуць у мой бок галаву — і здзівіцца. Я ёй паказаўся, канечне, пудзілам: стаіць на задніх нагах, пярэднія растапырыў, замест галавы з рожкамі нейкі качан, на ім вочы не вочы, нос не нос, пад носам валосікі рэдзенькія вісяць. А поўсць, поўсць якая! Гладкая, гідкая, шорсткая, страхоцце, а не поўсць. Пярэднія ногі куксаватыя, на задніх капыты, як калоды, іх і захацеўшы не падымеш. Нейкі час мы глядзелі адно на аднаго, прыкідвалі. Па залацістай скуры сарны прабегла лёгкая дрыготка, яна грэбліва зморшчыла пыску — нос ганарліва задраўся, затрымцеў, — пасля чмыхнула і слізганула ў кусты. Відаць, мой пах ёй дужа не спадабаўся. А яе пах, як гэта ні дзіўна, запомніўся. Мяне, які так і застаўся стаяць пяньком, абдало малочна-травяной хваляю, рэзкай і хмелістай. Патыхнула самой пушчай, я ў гэтым быў упэўнены.

— Дачарнобыльская сарна, сапраўдная, — уздыхнуў я.

— Што кажаш? — павярнуўся вухам, якое чуе, Сяргей.

— Так, сарну ўспомніў. Яны тут людзей не баяцца.

— Ага... — паглядзеў на Паўла Сяргей. — Заўтра мо пашанцуе, штук па пяць ліпеняў возьмем.

Ужо каля дваццаці гадоў ведаем мы гэты кавалак Налібоцкай пушчы. Чыстая рака, спелы лес, вёска з несамавітымі хатамі, аднак вакол кожнай хаты абавязкова зеляніцца вясной лапік жыта. Вясной зеляніцца, летам наліваецца, у жніўні жнецца. Чамусьці гэтыя лапікі мне асабліва грэлі душу, усе дваццаць гадоў. Ведаў я, на свае вочы бачыў, што многія вёскі на нашай зямлі памалу гінуць, чэзнуць, разбураюцца, а ў тутэйшых вёсках вакол кожнай хаты палоска жыта. Моладзі з кожным годам меншае, старыя старэюць, і хаты асядаюць, хіляцца набок, маўклівеюць, а жыта ўсё роўна застаецца. Паміраць збірайся, а жыта сей...

Хата заціхае, накрываецца моракам, як коўдрай, у кожным з пакояў, і на печы таксама, спяць людзі—немаўляты, маладыя, старыя. За сценамі нарываецца вецер, шуміць пушча, плюскоча рака. Ліпені слізгаюць у ёй, глядзяць з вады вялікімі груглымі вачыма, пытаюцца.

Што вы ловіце, лоўчыя? І ці ловіце?

У апраметнай познавосеньскай начы плыве сярод пушчы вёска, апускаючца на дно чорнага віра лоўчыя. Не бачна наперадзе выйсця, а да раніцы яшчэ далёка.

## З паэтычнай пошты

**Віктар ШУТКЕВІЧ**

*«...Штогод кожны неўр перайтвараецца на некалькі дзён у ваўка, а потым набывае ранейшае аблічча».*
(Паводле звестак Герадота аб неўрах — народзе, які жыў некалі на тэрыторыі сучаснай Беларусі).

### Чаму зніклі неўры

Беласточчына.
Вечар. Восень.
Сядзім за сталом
У тутэйшай беларускай сям'і,
Размаўляем пра нашы
Нялёгкія справы.
— Можа, хоць вы тут
Жывяце усе дружна? —
Наіўна пытаюся
У гаспадара.
Ён адказвае
З безнадзейнаю стомаю:
— Дармо, братка,
Грызёмся,
Як ваўкі ў Белавежы...

### Што мяняюць у Мінску?

Даўнім часам
Мае землякі
Вялі на Нямізе
Торг пачэсны
І безабманны:
Мянялі
Шыла — на мыла,
Мёд — на соль,
Лён — на шаўкі,
А часам, здаралася,—
Кроў на свабоду...
Прыязджаю дадому,
І самае першае,
Што я бачу,—
Аб'ява
На чыгунным слупе
Ля вакзала:
«Тэрмінова мяняю
Мінск на Маскву».

### Дзяды

Восеньскай ноччу
Я вяртаўся дадому
Міма могілак на ўзлессі,
Дзе пахаваны
Старэйшыя з нашага роду —
Дзед Андрэй,
Дзед Мікола,
Абедзве бабулі...
І хоць час быў не вельмі спрыяльны,
Раптам мне захацелася
Хвілінку пабыць разам з імі:
Расказаць, як я жыў гэты час,
Што рабіў, аб чым марыў...
Але падышоўшы,
Да асклізлае брамы,
Я нерашуча спыніўся.
Не дзядоў стала страшна —
Самога сябе:
Ці будзе мне што ім
Сказаць?

●

На чужбіну
Завёў мяне лёс.
Ці ўбачу
Калі-небудзь зноў
Беларусь —
Блізасць родных нябёс,
Беларусь —
Бездань белых снягоў?

### Зялёныя яблыкі

Летнія ночы.
Ясныя зоры.
Пахнуць расою
І зеллем разоры.
Гарэзлівы погляд.
Сцішаны поціск.
Пад яблыняй яблыкі
шукаем упоцьмах.
Не так тыя яблыкі
нам патрэбны,
Як дотык зняնацку,
як гэтае неба,
Якое праз голле
на нас пазірае.
Сядзім пад яблыняй —
гора не знаем.
Набраўшы урэшце
за пазуху поўна,
Праз сад асцярожна
ідзем пад поўняй
Да хаты, дзе студня
у змроку туліцца:
Раптам табе
закарцела напіцца.
Вокны расчынены.
Спіць даўно тата,
А маці раптам:
— Ідзіце ў хату!
Пакінула ў глечыку
я сырадою —
чаго ж ты дзеўку
поіш вадою?
Бразнула дужка.
Вядро — пад ногі!
Спуджана рвемся
з двара да дарогі.
Маці яшчэ наўздагон
нешта раіць,
А нас нястрыманы
смех разбірае:
Яблыкі тыя,
што з саду мы неслі,
Уцякаючы, усе
па дарозе растрэслі.
...За вёскай апошнія два
я намацаю —
Зялёныя. Цвёрдыя.
Самыя смачныя!

г. Варшава.

## РАРЫТЭТ З РАТАПРЫНТА

Выпушчаны калектывам публічнай бібліятэкі імя У. І. Леніна мінімальным тыражом у 350 экземпляраў, бібліяграфічны паказальнік «Станаўленне і развіццё рэжысуры ў беларускіх драматычных тэатрах (1841—1970)», нават не паспеўшы знайсці свайго адрасата, зрабіўся бібліяграфічнай рэдкасцю. Ён, бясспрэчна, належыць да невялікай колькасці сапраўды патрэбных, настольных кніг, якія непрыкметна ўваходзяць у культурны ўжытак, але адсутнасць якіх пад рукой заўсёды адчувальная. У бібліяграфічным указальніку «Станаўленне і развіццё рэжысуры ў беларускіх драматычных тэатрах» сабраны артыкулы аб творчасці У. Галубка і Я. Міровіча, К. Саннікава і Л. Літвінава, Б. Эрына і Л. Рахленкі, М. Міцкевіча і многіх-многіх іншых рэжысёраў, чые імёны, на жаль, няшмат інфармацыі даюць сучаснаму інтэлектуалу.

Галоўная каштоўнасць гэтага ратапрынтнага выдання ў тым, што яно дае шырокую панараму мастацкіх пошукаў у Беларусі з 1841 па 1970-я гады. У яго ўключаны многія артыкулы, дагэтуль не ўведзеныя ў навуковы ўжытак і не асэнсаваныя сучаснай мастацтвазнаўчай навукай. Вядома, яно не мае салідносці, акадэмізму, не прэтэндуе на поўнае навуковае апісанне ўсіх артыкулаў і імёнаў, у бібліяграфіі не ўказваюцца старонкі і нумары газет, сустракаюцца нявыверааныя крыніцы. Аднак і ў такім выглядзе гэты паказальнік служыць добрым дапаможнікам у даследчай працы. Колькі людзей добрым словам не раз успомняць С. М. Кавязіну — складальніка зборніка, якая занялася такой патрэбнай і карыснай справай, як крыніцазнаўства беларускага тэатра.

У. МАЛЬЦАЎ.

*Позірк у мінулае*

# „ЗДРАДНІК“

**З цыкла «Постаці». Януш РАДЗІВІЛ**

**Барыс САЧАНКА**

**Радзівілаўскі род — адзін з самых старажытных у Беларусі. За шматвяковае існаванне ён даў дзесяткі вядомых асоб, што ўвайшлі ў гісторыю не толькі нашага краю. Сваё месца сярод іх займае і гетман Вялікага княства Літоўскага Януш Радзівіл, якога некаторыя польскія даследчыкі называюць «здраднікам».**

НАРАДЗІЎСЯ Януш Радзівіл у 1612 годзе ў сям'і ваяводы віленскага, гетмана Вялікага княства Літоўскага Крыштофа Радзівіла. У яго маці Ганны з роду Кішкаў было шасцёра дзяцей, але выжылі толькі ён, Януш, і малодшая за яго Кацярына. Дзяцінства Януша прайшло ў родавых маёнтках Попелу, Віжунах, Біржах і Койданаве. Паколькі Крыштоф Радзівіл быў кальвініст, ён і сына Януша выхоўваў у сваёй веры, дзеля чаго прызначыў яму ў настаўнікі аднаго з выкладчыкаў кальвініцкай школы.

Калі Янушу споўнілася трынаццаць гадоў, бацька накіраваў сына ў Слуцк у гімназію. Праз тры гады Крыштоф, палічыўшы сына за паўналетняга, паслаў яго за мяжу. Януш наведаў Варшаву, Берлін, потым спыніўся ў Ліпску, дзе паступіў ва ўніверсітэт. Вучобу прадоўжыў у Галандыі. Шмат падарожнічаў — пабываў у Лондане, Бруселі, Парыжы. Будучы ў Галандыі, выканаў некалькі заданняў польскага караля Уладыслава IV, за што атрымаў чын падкаморага Вялікага княства Літоўскага. У гэтым чыне наняў каля тысячы чужаземнай пяхоты і дзвесце драгунаў, а таксама некалькі пушкароў і вайсковых інжынераў, і з гэтым войскам вярнуўся ў родны край. У кастрычніку 1633 года прыехаў у Смаленск, які тады ўваходзіў у склад Вялікага княства Літоўскага і за які вяліся ваенныя дзеянні з Масквой. Узяў на сябе камандаванне нанятай пяхотай і гусарскай харугвай, што стаяла на Жаўранкавых пагорках. Тая вайна за Смаленск скончылася перамогай Вялікага княства Літоўскага. Януш Радзівіл вярнуўся ў Вільню. Трохі счакаўшы, паехаў у Кракаў, дзе пры двары караля Уладыслава IV выконваў абавязкі падкаморага.

**Па сваім характары ён быў гарачы і ўпарты, да таго ж, не любіў палякаў. Непрыязь, а найчасцей варожасць у Радзівілаў, ды і ў іншых, як тады гаварылася, «вялікіх паноў» Вялікага княства Літоўскага да палякаў былі ледзь не традыцыйныя, ішлі яны ад даўніх часоў, яшчэ з Люблінскай уніі, якую надта ж не хацелі заключаць кіраўнікі княства, бачачы ў гэтым пагрозу незалежнасці іх дзяржавы, а палякі на чале з каралём Жыгімонтам Аўгустам змусілі іх гэта зрабіць. І хоць у уніі было шмат слоў пра роўнасць і вольнасць Кароны і Вялікага княства Літоўскага, «роўнасць і вольнасць» гэтыя пачалі хутка парушацца: некаторыя палякі, а найперш сам кароль хацелі і Вялікае княства Літоўскае лічыць ледзь не сваёй вотчынай і распараджацца ў ім, як распараджаліся ў сябе ў Кароне. Вядома, літоўскія магнаты адстойвалі свае правы, часта давалі палякам адпор, ставілі іх на месца. Незадаволенасць палякамі асабліва ўзмацнілася пасля Брэсцкай уніі (1595), якая, пад выглядам аб'яднання каталіцызму і праваслаўя, стварэння нацыянальнай царквы, на самай справе дала поўны прастор для дзеяння езуітаў і Рыма, стала па сутнасці яшчэ адным каналам пранікнення ўсяго польскага ў Вялікае княства Літоўскае. Януш Радзівіл многае ведаў ад бацькі, які быў старадаўняга, а, значыцца, незалежніцкага літоўскага гарту, многае паспеў пабачыць, на свае вочы, сам, таму асабліва не хаваў сваіх антыпольскіх настрояў, праяўляў іх адкрыта і нават бурна.**

Аднойчы, калі ў Вільні праходзіла рада сената, у якой браў удзел кароль, успыхнула спрэчка між Янушавым бацькам — гетманам Вялікага княства Літоўскага Крыштофам Радзівілам і каралём Уладыславам IV. Крыштоф адстойваў правы княства, даваў зразумець палякам, што не яны тут гаспадары. Кароль разгневаўся і паколькі не меў аргументаў, каб пераканаць Крыштофа і іншых сенатараў, што мае рацыю, ён перапыніў раду. Януш Радзівіл,— ён быў у свіце караля,— не вытрымаў, прыгразіў палякам: маўляў, пачакайце, прыйдуць часы, калі не праз дзверы, а праз вокны мы будзем вас выкідваць! Гэтыя словы ў каралеўскім акружэнні выклікалі адпаведную рэакцыю. Абражаныя палякі, у тым ліку і сам кароль, патрабавалі ад Януша публічнага пакаяння, але ён наадрэз адмовіўся гэта рабіць. Шмат было патрачана сіл, каб неяк усё згладзіць. Ды не паспелі пакончыць з гэтым канфліктам, як узнік новы. Гэты раз ужо не ў Літве, а ў Варшаве, дзе Радзівілы мелі дом і куды не пусцілі адну вельмі важную і ўплывовую каталіцкую асобу...

Тым не менш, кароль Уладыслаў IV не так любіў Радзівілаў, як змушаны быў з імі лічыцца — Радзівілы мелі значны ўплыў не толькі ў Вялікім княстве Літоўскім, але і ў Кароне. Да таго ж, сам кароль радаваўся, калі ўзнікалі спрэчкі і непаразуменні між вяльможамі, часта нават сам падштурхоўваў да сварак і варожасці, бо ведаў, што калі ўплывовыя людзі не ладзяць між сабою, то не згаворацца, не ўчыняць нейкага закалоту супраць яго, караля, ды і кіраваць такімі лягчэй. Сувязей з Янушам Радзівілам кароль не парываў, лічыў яго ледзь не сябрам, часта браў з сабою ў розныя паездкі, на паляванні, што, вядома ж, не ўсім падабалася.

У 1638 годзе Януш Радзівіл ажаніўся, узяў сабе ў жонкі ваяўнічую каталічку Кацярыну Патоцкую. І адразу ж між ім і бацькам пачаліся сваркі. Тым не менш, Януш Радзівіл утрымаўся, не здрадзіў сваёй веры. І ў часе беспарадкаў, якія ўспыхнулі ў Вільні, калі хавалі кальвіна А. Прыпкоўскага, загадаў страляць сваёй пяхоце па касцёлу Дамініканаў, пасля чаго спецыяльным дэкрэтам суда сойма кальвіністам было забаронена з'язджацца на свае зборы ў Вільню.

У 1640 годзе памёр Янушаў бацька Крыштоф. Януш атрымаў багатую спадчыну. Вядома, жонка-каталічка рабіла ўсё, каб Януш Радзівіл прыняў яе веру. Шчыраваў і кароль, ды і іншыя «сябры» Януша, у тым ліку і свае ж ліцвіны, якія тады якраз масава пераходзілі ў каталіцызм, ці ў уніяцтва. Але Януш не спяшаўся гэта рабіць, хоць пад уплывам жонкі і пазбаўляў са службы ўсіх былых бацькавых слуг, якія былі кальвіністамі. На іх месца набіраў толькі католікаў. Невядома, як і што было б далей, але ў 1642 годзе Кацярына Патоцкая нечакана памёрла.

Цяпер Януш успомніў свайго бацьку, які той не ахвоціў яго жаніцца з Кацярынай Патоцкай, раіў браць у жонкі не так заможную нявесту, як уплывовую і, вядома ж, не каталічку. Таму гэты раз свой выбар спыніў на дачцэ гаспадара Малдавіі Базыля Лупула Марыі. Кароль Уладыслаў IV, які рыхтаваўся да вайны з Портай (Турцыяй) і хацеў абаперцыя на малдаўскага гаспадара, выбар нявесты Янушам Радзівілам ухваліў. Базыль Лупул таксама быў не супраць, каб парадніцца з Радзівіламі, таму згадзіўся аддаць замуж сваю старэйшую дачку ў Літву. Справілі багатае вяселле. Пры гэтым высветлілася, што Марыя па веры праваслаўная, што не надта ж спадабалася каралю, але зблізіла Радзівілаў з праваслаўем, якое было, няглядзячы на Брэсцкую унію, усё яшчэ даволі пашырана ў Вялікім княстве Літоўскім. Януш Радзівіл падтрымліваў намеры караля, каб развязаць вайну з Портай, за што яму і была дадзена ў 1646 годзе булава гетмана польнага літоўскага. Праз нейкі час пасля атрымання булавы гетмана Януш Радзівіл па просьбе караля выехаў з таемнай місіяй да свайго цесця Базыля Лупула ў Ясы і да князя Юрыя I Ракачы ў Сяміград, каб заручыцца іх падтрымкай на выпадак вайны з Портай. Місія закончылася ўдала, і Януш Радзівіл у дадатак да гетманскай булавы атрымаў яшчэ і званне маршалка Трыбунала літоўскага ў Вільні. Каб палякі-католікі не касаваліся на яго, збудаваў некалькі каталіцкіх касцёлаў у сваіх маёнтках, што надта ж не спадабалася кальвіністам і праваслаўным, затое дапамагло яму павялічыць колькасць свайго войска аж на 6 тысяч, прычым за кошт казны.

У ГЭТЫ ЧАС на землях Кіеўскіх, на Валыні, Падоллі, якія раней, да Люблінскай уніі, уваходзілі ў Вялікае княства Літоўскае і якія, скарыстаўшы слабасць княства, Карона напярэдадні уніі далучыла да сябе, і ў іншых гарадах і вёсках, як тады называлі, Украіны Маларасійскай, надта ж абвастрыліся падзеі — чыгірынскі сотнік Багдан Хмяльніцкі, аб'яднаўшы казакаў рэестравых і вольных запарожскіх і аб'явіўшы сябе гетманам, пачаў сапраўдную вайну з польскімі панамі. Ва Універсалах, якія слаў па Украіне і якія траплялі і на Літву, ён пісаў:

**«Зиновий Богдан Хмельницкий, гетман славного войска реестрового Запорожского и всее по обеим сторонам Днепра сущей Украины Малороссийской, вам всим Малороссийским по обеим сторонам реки Днепра шляхетным и посполитым большого и меньшого чина людем, а особливо шляхетно-урожоным казаком, истой братии нашей, сим универсалом нашим ознаймуем... Иж не без причин нашых слушных мусили есьмо зачати войну и подняти оружие наше на Поляков... иж они, Поляки... прилащили и подчинили с древних веков земли и провинции Сарматские, альбо козацкие наши Русские, от Подоля, Волыни и Волох посполу, и аж до самого Вильна и Смоленска... всих оных братию нашу, Роксолянов, в невольническое подданское ярмо запрягши, от веры отеческие православные душеспасительныя греко-российские отторгнули, и до пагубной унии и римского заблуждения силою, гвалтом и многими над совестью христианскою мучениями и тиранством привлекли и приневолили, и всих первых князей наших и королей своих Польских, благочестие наше грекороссийское хранивших и утвердивших, привилегии и мандаты презрели, уничтожили, и вцале против политики шляхетской и доброй совести скасовали... Кому мила вера благочестивая, от Поляков на унию претворенная; кому из вас любима целость отчизны нашей Украины Малороссийской, и честь наша шляхетская, от Поляков уничтожаемая, весьма посмеиваемая и поругаемая: тот всяк... яко зычливый и любезный сын отчизны своей, по выслушанью сего универсального ознайменья нашого, рачи к нам в обоз... на добрых конях и с исправным оружием неоткладне прибувати, и спольна с нами, прикладом старовечных валечных и многим народом в околичных странах славных предков своих, станути мужественно и небоязненно, при всемогущей помощи божией, против Поляков, своих грабителей, озлобителей и супостатов...»**

Усе спробы кароннага войска прымусіць казакаў скласці зброю і пакарыцца ні да чаго не прывялі. Наадварот, казакі атрымлівалі перамогі адну за адной. У бітве пад Корсунем яны ўшчэнт разбілі польскае войска, а гетманаў каронных Патоцкага і Каліноўскага ўзялі ў палон. І Януш Радзівіл разлічваў атрымаць булаву гетмана кароннага, бо ў Польшчы не было тады вопытных военачальнікаў. Таму на Універсал сойма з Варшавы адказаў, што і ўсё войска княства гатова пайсці на Украіну, калі толькі ёсць у тым патрэба.

Але далейшыя падзеі развіваліся не на карысць Януша Радзівіла. Вяртаючыся з Літвы, памёр у дарозе кароль Рэчы Паспалітай Уладыслаў IV. Таму на сойме, які адбыўся ў ліпені 1648 г. у Варшаве, Янушу Радзівілу не толькі не ўдалося атрымаць булавы Кароны, але страціў ён і той уплыў, які меў, бо нагадалі яму словы, што сказаў ён некалі пра палякаў у Вільні. І паколькі Януш Радзівіл быў не католік, меў жонку праваслаўную і заступаўся часта за рэлігіі малыя, прыгнечаныя, то палякі баяліся, што ён можа аб'яднацца з казакамі Багдана Хмяльніцкага і ўжо разам з ім рушыць на Варшаву.

**Між тым вайна на Украіне набывала ўсё большы размах. Успыхвалі паўстанні сялян і гараджан то тут, то там і ў Вялікім княстве Літоўскім. Усё часцей казацкія загоны, як тады казалі, «плюндравалі» Літву. Але змагацца з паўстанцамі і казакамі Януш Радзівіл не спяшаўся. У яго на гэты конт узніклі свае меркаванні. Дый як і многія тады ўплывовыя людзі, ён уцягнуўся ў барацьбу за выбранне новага караля. Ён рабіў стаўку на дом Ракачаў. Сваю думку не змяніў і пасля смерці Юрыя I Ракачы ў кастрычніку 1648 г. Палякі ж, ды і частка сенатараў ад Літвы змагаліся за выбранне на каралеўскі пасад аднаго з братоў Уладыслава IV — Яна Казіміра ці Карла Фердынанда. Ні адзін з іх не адпавядаў уяўленням і настроям Януша Радзівіла: Карл Фердынанд быў езуіт і іншай рэлігіі, апрача сваёй, не толькі не прызнаваў, але і не цярпеў. Што ж да Яна Казіміра, дык той наогул быў мала каму вядомы, бо ў Польшчы амаль не бываў, жыў увесь час пры розных дварах за мяжою.**

**Тым не менш, кожны з братоў меў сваіх прыхільнікаў. Між імі вялася жорсткая закулісная барацьба за тое, каб каралём стаў Карл Фердынанд, падавалі галасы тыя, хто варагаваў з вялікім канцлерам кароным Юрыем Асалінскім. За Яна Казіміра як караля Рэчы Паспалітай быў Юры Асалінскі і... Багдан Хмяльніцкі, які таксама прыслаў на сойм сваіх паслоў. Сенатары ад Літвы вагаліся, за каго падаваць галасы. Падканцлер Вялікага княства Літоўскага Казімір Сапега, які вельмі ж баяўся ўплыву Радзівілаў у Літве, нарэшце, паддаўся на ўгаворы Юрыя Асалінскага і падтрымаў Яна Казіміра. Такі ход падзей змусіў і Радзівілаў заняць іншыя пазіцыі — Януш і яго стрыечны брат Багуслаў таксама падалі свае галасы за выбранне каралём Яна Казіміра, хоць яго люта і ненавідзелі. За Яна Казіміра як караля Рэчы Паспалітай падала свой голас і жонка Уладыслава IV Марыя Людвіка... Бачачы, што церпіць паражэнне, Карл Фердынанд напісаў ліст, у якім адмаўляўся ад кароны на карысць свайго старэйшага брата...**

**Але Януша Радзівіла гэта ўжо мала цікавіла. У яго галаве спелі зусім іншыя планы — выкарыстаць цяжкае становішча Кароны і паспрабаваць вырвацца з-пад улады караля і палякаў, вярнуць незалежнасць, былую сілу і веліч Вялікага княства Літоўскага, страчаныя пад прымусам ненавісных уній.**

УСЯ ПАЎДНЁВАЯ ЧАСТКА княства была ўжо ахоплена паўстаннямі, была фактычна ў руках сваволі. Паслаўшы сваіх надзейных людзей на перамовы да сяміградскага князя Юрыя II Ракачы і да Багдана Хмяльніцкага, Януш Радзівіл, тым не менш, каб паказаць моц войска літоўскага, у лютым 1649 года ўзяў штурмам вельмі ж умацаваны горад Мазыр (Пінск і Тураў былі ўзяты раней), а 22 таго ж самага месяца авалодаў Бабруйскам. Пасадзіўшы кіраўнікоў паўстання на кол — «дзеля прыкладу» — і адсекшы 270 казакам правыя рукі і пусціўшы іх на ўсе чатыры бакі, сам вярнуўся ў свой родавы маёнтак Яшуны — пад Вільняй, і ўжо адтуль вёў перамовы, пасылаючы ганцоў, з князем сяміградскім і Хмяльніцкім. Гэтыя перамовы да чаго-небудзь пэўнага не прывялі: кожны патрабаваў свайго і не ішоў ні на якія кампрамісы і ўступкі.

Пра перамовы Януша Радзівіла з князем сяміградскім і Хмяльніцкім вядома стала каралю Яну Казіміру. І ён, разлаваны, пачаў патрабаваць, каб палову свайго войска княства Літоўскае аддало Кароне пад яе кіраўніцтва. Соймік літоўскі, сабраўшыся ў маі 1649 года, выказаўся супраць дзялення войска літоўскага, бо яно патрэбна было самому княству для барацьбы з паўстанцамі. Януш Радзівіл таксама захацеў паказаць яшчэ раз сваю моц і моц войска літоўскага, якіх, як яму здалося, не даацанілі тыя, з кім ён вёў перамовы. 3 ліпеня 1649 года ён прыехаў у Рэчыцу, дзе знаходзілася больш шасці тысяч войска літоўскага, і, агледзеўшы яго, рушыў на Кіеў. Каб спыніць рух літоўскага войска, Багдан Хмяльніцкі выслаў насустрач яму пятнаццацітысячны загон казакаў пад камандай самага блізкага свайго сябра Міхала Крычэўскага. 31 ліпеня казакі і войска літоўскае сустрэліся пад Лоевам, дзе адбылася вядомая ў гісторыі бітва. Перамогу ў ёй атрымала войска літоўскае, казакі былі разбіты, а іх кіраўнік Міхал Крычэўскі, паранены, быў узяты ў палон. Праўда, жывы ў рукі літоўскай шляхты ён не даўся — кінуўся на акаванае жалезам кола і, разбіўшы галаву, упаў і, не прыходзячы да прытомнасці, памёр...

Дарога на Кіеў была адкрыта, але Януш Радзівіл не пайшоў яго браць, спаслаўшыся, што ў войска мала пораху і куль. Адвёўшы свае атрады назад пад Рэчыцу, ён вярнуўся зноў у Яшуны, каб прадоўжыць перамовы з князем сяміградскім і Багданам Хмяльніцкім. Гэты раз ён падключыў да перамоваў яшчэ і караля шведскага Карла X Густава, які пачаў вайну з польскай Каронай, і досыць паспяхова — шведы дайшлі аж да Чанстахова...

Тым часам у Збораве было заключана перамір'е між казакамі і польскім каралём, якое давала так неабходную перадышку і Багдану Хмяльніцкаму і палякам...

16 снежня Януш Радзівіл прыехаў у Варшаву на сойм і ўрачыста перад каралём і сенатам злажыў здабытыя ў бітве пад Лоевам сцягі разгромленых казацкіх атрадаў. Як узнагароду за гэта атрымаў ад сената ва ўласнасць Невель і Себеж, а кароль, каб улагодзіць Януша Радзівіла, надаў яму годнасць старасты Барысава. Як заўсёды, і гэты раз вёў ён сябе ў Варшаве бурна і незалежна. 12 студзеня ён так сутыкнуўся з Янам Сабескім, што той вымушаны быў выклікаць Януша Радзівіла на дуэль...

АДНОСІНЫ З КАРАЛЁМ Янам Казімірам у Януша Радзівіла значна палепшыліся пасля таго, як Багдан Хмяльніцкі са сваім войскам напаў на Малдавію, гаспадаром якой тады быў цесць Януша Радзівіла Базыль Лупул. Цяпер Ян Казімір мог разлічваць на сапраўдную дапамогу войска літоўскага ў барацьбе з казакамі. Дзеля таго, каб знайсці паразуменне з Янушам Радзівілам і схіліць яго цалкам на свой бок, Ян Казімір паслаў да яго Альбрыхта Гарэцкага, кальвініста, які лічыўся вельмі тонкім дыпламатам і ўплывовай асобай, каб ён, Альбрыхт Гарэцкі, іх памірыў. Януш Радзівіл прапанаваў каралю пачаць перамовы з Базылём Лупулам і князем сяміградскім і нават з крымскім султанам — стварыць кааліцыю супраць казакаў. І каб пераканаць караля ў плённасці сваёй задумы, сам паехаў у Варшаву. Кароль Ян Казімір прыняў план Януша Радзівіла і заключыў такую кааліцыю. Януш Радзівіл, натхнёны гэтым — у яго наконт кааліцыі былі свае далёкія планы і надзеі, а менавіта, кааліцыяй прымусіць Карону парваць Уніі з Літвой, — прыступіў да арганізацыі новага паходу на Кіеў. 6 ліпеня 1651 года адбылася яшчэ адна бітва пад Лоевам з казакамі, якімі кіраваў Нябаба. У гэтай бітве войска літоўскае мела перавагу і выйграла яе. Пераправіўшыся праз Дняпро і завалодаўшы Чарнігавам, ужо трэцяга жніўня Януш Радзівіл быў пад Кіевам і праз некалькі дзён узяў яго без бою. Праўда, пакарыстацца здабычай надта не змог, бо хтосьці падпаліў горад, і ён амаль увесь згарэў*.

4 верасня Януш Радзівіл са сваім войскам пад Васільковым злучыўся з войскам Кароны, каб даць генеральную бітву казацтву Хмяльніцкага. Аднак бітвы не адбылося — 29 верасня між каралём Янам Казімірам і Багданам Хмяльніцкім быў заключаны мір, вядомы як Белацаркоўскі. Януш Радзівіл адчуваў сябе героем. Яго параўноўвалі з Балеславам Храбрым. На памяць аб узяцці Кіева ён адліў медаль, на якім па-лацінску было напісана: «Гэта табе каралю Яну Казіміру Радзівіл аддае ў рукі разбураныя муры Кіева і сайдакі бунтаўнікоў».

На сойме 1652 года (26 лютага) не хто-небудзь з палякаў, а Януш Радзівіл дакладваў аб дзеяннях кароннага і літоўскага войска ў барацьбе з казакамі, што, вядома ж, сярод ганарлівых польскіх магнатаў выклікала абурэнне і злосць. Яны пачалі інтрыгі супраць Радзівілаў, спярша супраць Багуслава, потым і самога Януша. Дайшло да шабляў... Каб яшчэ больш напаліць атмасферу, хтосьці пусціў чутку, што памёр вялікі гетман літоўскі Януш Кішка. Кароль, не вельмі давяраючы Радзівілам і баючыся іх, паабяцаў аддаць булаву вялікага гетмана княства Паўлу Сапегу. Гэта выклікала абурэнне Януша. Ён са скандалам пакінуў Варшаву, нават не развітаўся з каралём, што, па тым часе, было нечувана...

Праз год, на сойме ў Брэсце, Януш Радзівіл запатрабаваў ад караля аддаць яму самае ўплывовае ў Вялікім княстве Літоўскім кіраўніцтва ваяводствам Віленскім. Кароль не знайшоў нікога сярод сенатараў літоўскіх, каго б можна было супрацьпаставіць Янушу Радзівілу. У сакавіку 1654 года, пасля смерці Януша Кішкі, на сойме Януш Радзівіл пачаў барацьбу за булаву вялікага гетмана княства... Спроба памірыць яго з каралём не ўдалася, і сойм быў сарваны. Спагадзя некаторы час кароль змушаны быў пайсці на ўступкі Янушу Радзівілу — да булавы гетмана польнага аддаў яму яшчэ і булаву гетмана вялікага... Вядома, атрымаўшы дзве булавы — камандуючага ўсім войскам Вялікага княства Літоўскага, Януш Радзівіл разам з гэтым атрымаў вялікую ўладу, фактычна стаў адзіным кіраўніком цэлага княства. Першае, што ён зрабіў, гэта адліў медаль з выявай толькі што пабудаванага ў Вільні новага свайго палаца і надпісам: «Калі атрымаеш уладу і цудоўны пабудуеш палац, справядліва твая Вільня паважае цябе як палатына». Уезд яго ў Вільню справуляўся як вялікае свята. На гэта была патрачана нечуваная для таго часу сума грошай, большая, чым нават на першы прыезд караля Уладыслава IV. Палац Януша Радзівіла быў самы лепшы ў Вільні, у ім была такая дарагая мэбля, такія дываны і карціны, што калі Вільню потым занялі рускія войскі, то ўсе самыя каштоўныя рэчы з гэтага Палаца перавезлі ў Маскву і ўпрыгожылі імі царскія пакоі.

Наогул, Януш Радзівіл надта ж любіў усё замежнае, асабліва ўсходняе — японскае, кітайскае, індыйскае. Сам ён быў вельмі адукаваны, ведаў некалькі моў, свабодна размаўляў на іх. Усе яго слугі насілі дарагое адзенне, на многіх гарэлі рубіны, дыяменты, золата. Вельмі шанаваў ён і сваё войска, апранаў яго ў своеасаблівае адзенне, каб усім відаць было, што гэта не абы-якое войска, а войска Вялікага княства Літоўскага...

Улада Януша Радзівіла на Літве была вялікая. І хоць кароль угаварыў Януша аддаць булаву гетмана польнага Вінцэнту Гасеўскаму, гэта не паўплывала ўжо на яго аўтарытэт.

ПАКУЛЬ Януш Радзівіл купаўся ў промнях сваёй славы, Багдан Хмяльніцкі накіраваў у Маскву паслоў і між ім і Масквою ў Пераяслаўлі быў заключаны дагавор, паводле якога Украіна добраахвотна ўз'ядналася з Расіяй. Гэта быў нечаканы і страшны ўдар па Рэчы Паспалітай. Ян Казімір, кароль Польскі і Вялікі князь Літоўскі, пісаў тады ў сваім Універсале, звяртаючыся да ўсіх казакаў: «...вобец и каждому з асобна, кому о том ведати належыт, и меновите полковником, сотником, асаулом, атоманом и всим молодцом войска нашого Запорожского, верне нам милым...»

**«Верные, нам милые! — пісаў Ян Казімір.— Дошла до нас в тых часех ведомость, якобы злославный здрайца наш Хмельницкий, не контентуючися так строкгим по тые вси домового замешанные часы, с причины своее, разлитием крове христианское, ани так многою личбою згубленных и в неволю поганскую забранных душ, на остаток, через здраду верностиям тем вашим, запродал вас царови Московскому под незносное вольностем вашим панованье и томуж, над умысл и волю вашу, присегати вас примушал.**

**Однак, межи вас много так статечных в вере и послушанстве противку нам знайдовалося, которые здраду того бунтовника постерегши, заразом от него отступили, ани присеги своее нам ломати, а кому иншому отдавати не захотели: яковую веру и статечность похвалити и мило приняти мусим, також и тых, которые через мус и с великою тяжкостью, яко нам ведомо, до присеги нагнаные, хрест целовати мусили. А так, по звыклой нашой к подданым ласкавости, отстерегаемо нашу верность, абысте ся вчесне обачили, и в прирожоном нашом и всее Речи Посполитой зоставили подданстве, и с тым бы к нам, напрод нижли войскй наши поступят, заразом отозвалися. А мы яко всих вас до ласки нашой и обороны приняти хочемо, так и при давных правах и вольностех непорушение затримовати обецуем.**

**Дан в Варшаве, дня шостого месяца июня, року божого нарожения 1654, панованья нашого Польского и Шведского 6-го року».**

Але схіліць на свой бок шляхту і казакаў кароль польскі ўжо не змог. Да таго ж у гэты час Масква аб'явіла вайну, якая фактычна ўжо ішла даўно, Рэчы Паспалітай, і рускія войскі разам з украінскім казацтвам пайшлі на дапамогу беларусам, якія ўсюды ў гарадах і вёсках падымалі паўстанні. Цар разаслаў грамату — зварот да ўсіх праваслаўных Польскай Кароны і Вялікага княства Літоўскага, пераконваючы аддзяліцца ад палякаў, абяцаючы захаваць іх дамы і маёмасць некранутымі ад вайсковых рабункаў. Магілёў, Віцебск, Полацк самі адчынілі вароты і прызналі ўладу рускага цара. Да такога павароту спраў Вялікае княства Літоўскае не было падрыхтавана. Зноў, як і заўсёды, калі на Вялікае княства Літоўскае хто-небудзь нападаў, Карона яму не дапамагала — чакала толькі, калі яно абяскровее, каб падмяць цалкам пад сябе, ліквідаваць і тую незалежнасць, якая яшчэ была. У бітве за Смаленск, які тады належаў Вялікаму княству Літоўскаму, літоўскія войскі пацярпелі першае сур'ёзнае паражэнне, і Смаленск быў здадзены на ласку цару...

Другая вялікая бітва з царскім войскам адбылася 12 жніўня 1654 года пад Шкловам, у якой прыняў удзел і сам вялікі гетман Літвы Януш Радзівіл. У час бітвы здарылася сонечнае зацьменне. Але не яно паўплывала на яе вынік — царскія войскі мелі перавагу як у колькасці, так і ў якасці ўзбраення. Януш Радзівіл, ледзь сам не апынуўшыся ў палоне, змушаны быў адступіць са сваім войскам, страціўшы каля 700 лепшых сваіх воінаў. Наступная бітва адбылася каля вёскі Шапялевічы, — у ёй Януш Радзівіл страціў зноў каля тысячы воінаў, але перамогі не дамогся — змушаны быў зноў адступіць...

Больш Януш Радзівіл не ўступаў у баі з царскім войскам, а ўвесь аддаўся дыпламатыі — пачаў пасылаць ганцоў да Багдана Хмяльніцкага, Юрыя II Ракачы і шведскага караля Карла X Густава, каб адлучыць Вялікае княства Літоўскае ад Кароны і каб яно займела поўную самастойнасць. Сваімі планамі ён падзяліўся з гетманам польным княства Вінцэнтам Гасеўскім, з якім сустрэўся ў Койданаве. Але той не падтрымаў Януша Радзівіла...

СПРАБАВАЎ Януш Радзівіл знайсці паразуменне, заручыцца падтрымкай і сенатараў літоўскіх, дзеля чаго самавольна сабраў 19 лістапада 1654 г. соймік Вялікага княства Літоўскага. Але сенатары таксама не падтрымалі Януша. Спаткаўшыся апошні раз з каралём Янам Казімірам у студзені 1655 года, Януш Радзівіл са сваім войскам рушыў да Магілёва. Сёй-той з сенатараў спрабаваў спыніць Януша Радзівіла, аднак ён, раз'юшаны, кідаўся з шабляй на кожнага, аднаго з іх, Юрыя Тышкевіча, нават параніў...

Магілёў, як вядома, у гэты час быў у руках рускіх. Пра тое, што адбылося, калі да горада наблізілася літоўскае войска, паведамляў цару Аляксею Міхайлавічу ваявода Ваейкаў 9 мая 1655 года:

**«...февраля, государь, в 6 день изменник Костка Поклонской с могилевскою и иных городов шляхтою, которые у него в полку служили, и с казаками тебе государю царю и великому князю Алексею Михайловичю, всея Великия и Малыя России самодержцу, изменили, гетманов Радзивила и Госевского, и Богуслава Радзивила с войском в большой зеленой вал в ночи с два часа до света впустил, и в меншой земленой вал хотел обманом въехать и литовских людей с собой ввесть».**

Але ўзяць Магілёў, адбіць яго ў рускіх Янушу Радзівілу не ўдалося, хоць літоўскае войска і аблажыла горад, трымала яго ў асадзе аж да мая месяца, робячы час ад часу наступы.

**«И майя в 1 день, после последнего подкопу и приступу и после последние вылазки, милостию божиею и пречистые богородицы заступлением и твоим государевым и сына твоего государева, государя нашого благоверного царевич и великого князя Алексея Алексеевича счастием, гетманы Радзивил и Госевской и Богуслав Радзивил со всеми польскими и литовскими людми от Могилева отступил и побежал со всеми за Березину реку...»**

Ва ўсіх сваіх няўдачах Януш Радзівіл вінаваціў «парфумнага калегу» Вінцэнта Гасеўскага, які нібыта не так дапамагаў яму ў бітвах з царскім войскам, ды і ў здабыцці незалежнасці Вялікага княства Літоўскага, адарвання яго ад Кароны. У сваіх лістах, што пісаў да караля шведскага Карла X Густава, ён прасіў вайсковай дапамогі для барацьбы са сваімі «неахвочымі», поўных свабод для ўсіх рэлігій, прасіў аддаць яму ў валоданне ваяводства Брэсцкае, паветы Гродзенскі і Вілкамірскі, самастойна весці суды і дазволіць ліць сваю манету. За гэта Вялікае княства Літоўскае абавязвалася прызнаваць шведскага караля за свайго.

Рускія войскі між тым у Літве мелі вялікія поспехі. Яны ўзялі Мінск, Коўна і, нарэшце, Вільню. Рускі цар Аляксей Міхайлавіч, як піша М. І. Кастамараў, «уехаў у сталіцу Ягелонаў і загадаў называць сябе Вялікім князем літоўскім. Гарады здаваліся за гарадамі, у большасці без усякага супраціўлення. Мяшчане і шляхціцы, якія захавалі праваслаўе, а яшчэ больш прыгнечаныя панамі сяляне прымалі маскоўскіх людзей як вызваліцеляў».

Януш Радзівіл са сваім войскам, не ўступаючы ў баі, рушыў на Шаўлі, і ў Яшвойнях пад Кейданамі 18 жніўня 1655 года заключыў саюз са Швецыяй — акт аб выхадзе Вялікага княства Літоўскага з польскай дзяржавы. Гэты акт амаль цалкам цытуе Г. Сянкевіч у сваім рамане «Патоп»:

**«...Мы, кіраўнікі і шляхта Вялікага княства Літоўскага,— гаварылася ў ім,— вымушаныя да таго неабходнасцю, аддаемся пад апеку яго вялікасці караля шведскага на ніжэйдамоўленых умовах:**

**1) Разам ваяваць супраць агульных ворагаў, выключаючы караля і Карону Польскую.**

**2) Вялікае княства Літоўскае не будзе прыяднана да Швецыі, але злучана з ёю тою самай уніяй, якая дагэтуль была з Каронаю Польскаю, гэта значыцца народ ва ўсім будзе роўны народу, сенат сенату і воіны воінам.**

**3) Свабода голасу будзе абавязковаю.**

**4) Свабода рэлігіі будзе непарушнаю...»**

Урачыстасці з выпадку падпісання гэтага акта адбыліся ў Кейданскім замку 20 кастрычніка таго ж года. Войска падтрымала Януша Радзівіла, асабліва калі стала вядома, што шведы абяцалі плаціць грошы і забяспечваць порахам і іншым неабходным вайсковым рыштункам.

Але шведы не выканалі сваіх абяцанняў. Войска падняло бунт і пад кіраўніцтвам Мікалая Шэмета пакінула Януша Радзівіла. Пераправіўшыся праз Нёман, яно рушыла на поўдзень княства.

Пры Янушу Радзівілу засталося толькі каля тысячы чужаземцаў. Януш Радзівіл быў вельмі засмучаны паводзінамі шведскага караля, тым не менш тое сваё войска, што пры ім засталося, павёў разам са шведскім на палкі княства Літоўскага, якія ад яго адлучыліся. 19—21 кастрычніка ён быў пад Аўгустовам, а 15 снежня заняў замак у Тыкоціне і пачаў там рыхтавацца да абароны. У лістах, якія слаў Карлу X Густаву, ён папярэджваў аб магчымым саюзе Польшчы з крымскімі татарамі, і прасіў у караля дапамогі...

У НОЧ З 30 НА 31 СНЕЖНЯ 1655 года Януша Радзівіла не стала. На мёртвым яго целе выступілі плямы, што ўказвала: князя атруцілі. Хто — лёгка здагадацца. Відаць, пры Янушу Радзівілу аставаліся людзі, якія былі верныя польскаму каралю Яну Казіміру...

Цела яго было пахавана там жа, у Тыкоціне. Праз два гады, калі Тыкоцін быў заняты войскам літоўскім пад кіраўніцтвам Паўла Сапегі, яно было перавезена ў вотчыну Радзівілаў Сялец пад Брэст. Потым па просьбе Багуслава Радзівіла цела князя Януша Радзівіла было дастаўлена ў родавы склеп у Кейданы.

Пасля смерці Януша Радзівіла, асабліва пасля Андрусоўскага міру (1667 г.), які падзяліў зоны ўплыву між Масквою і Польшчай, рабілася ўсё магчымае, каб яшчэ больш заняволіць беларускі і літоўскі народы. Пачалі прымацца адна за адной пастановы, якія былі накіраваны на поўную паланізацыю Беларусі і Літвы. Вось толькі кароткі пералік некаторых з іх:

**У 1667 г. сойм Рэчы Паспалітай вызваліў ад ваенных абавязкаў каталіцкае і уніяцкае духавенства, а праваслаўнае духавенства абавязаў плаціць падаткі, як плацілі іх мяшчане.**

**Праз год, у 1668 годзе, сойм пастанавіў караць за пераход з каталіцызму або уніі ў іншую веру выгнаннем з дзяржавы, а, каб праваслаўныя адчувалі сябе як няпоўнапраўныя грамадзяне, у 1676 г. прыняў закон, які забараняў пад пагрозай смерці праваслаўным выязджаць за мяжу або адкуль бы там ні было прыязджаць у край.**

**У 1698—1699 гг. ва Універсале толькі што абранага польскага караля Фрыдрыха Аўгуста гаварылася: «У справах і пасольствах Рэчы Паспалітай мы, згодна даўнім законам, не будзем карыстацца сваёй пакаёвай пячаткай або сыгнетам, і абяцаем выдаваць усе лісты, справы і публічныя легацыі толькі на мове польскай і лацінскай, а не іншай». Гэта азначала: беларуская мова робіцца непажаданай ва ўсіх урадавых установах, у судах і наогул у справаводстве і перапісцы.**

**Яшчэ праз два гады паводле новай пастановы таго самага сойма ў мясцовае кіраўніцтва мелі права выбірацца толькі католікі і уніяты. Само сабой зразумела, вялася бязлітасная барацьба і ў іншых сферах, зачыняліся цэрквы, адчыняліся касцёлы. Так, у другой палове XVII стагоддзя ў Беларусі было пабудавана больш за 300 касцёлаў. Ксяндзам і уніяцкім святарам наразаліся вольныя землі, аддаваліся прыгонныя сяляне. У каталіцызм масава пераходзілі шляхта і заможнае сялянства, рэшта заганялася сілаю.**

СПРОБЫ АДНАВІЦЬ былое Вялікае княства Літоўскае ўзнікалі яшчэ двойчы — у пачатку XIX стагоддзя. Імператар Аляксандр I, баючыся Напалеона, у 1811 годзе хацеў утварыць буферную дзяржаву паміж Польшчай і Расіяй, каб ёю адгарадзіцца ад небяспечнага заваёўніка з Еўропы. Была ўжо нават вызначана тэрыторыя дзяржавы, у склад якой уключаліся Міншчына, Віленшчына, Беласточчына, Падолле, Кіеўшчына. Узначаліць гэтую дзяржаву павінен быў беларускі магнат Агінскі. Але здзейсніць задуму Аляксандру I не ўдалося — Напалеон уварваўся ў Расію раней, чым меркаваў Аляксандр I. Праўда, сам Напалеон, як выявілася, таксама выношваў тую самую задуму — утварыць незалежнае ад Польшчы і Расіі Вялікае княства Літоўскае — 1 ліпеня 1812 г. ён сваім загадам абвясціў пра гэта. Але з таго зноў жа нічога не выйшла — французская армія была разбіта, а сам Напалеон змушаны быў уцякаць з Расіі...

---

* М. І. Кастамараў пра гэта піша так: «З паўночнага боку нахлынула на Украіну іншая ваенная сіла: кіраўнік літоўскага войска Радзівіл паслаў атрад супраць Чарнігаўскага палка, якому Хмяльніцкі даручыў вартаваць мяжу. З прычыны памылкі чарнігаўскага палкоўніка Нябабы, казакі пацярпелі паражэнне. Радзівіл заняў Чарнігаў, а потым, у апошніх днях ліпеня, падступіў да Кіева. Кіеўскі палкоўнік Ждановіч выйшаў з горада ў надзеі напасці на літоўцаў, калі апошнія будуць знаходзіцца ў Кіеве. Горад быў заняты літоўцамі 6 жніўня; казакі з двух бакоў: сухапутна ад Лыбедзі і на суднах па Дняпры, пачалі набліжацца да горада. Тут кіеўскія мяшчане самі запалілі горад, каб зрабіць у літоўскім войску паніку і тым дапамагчы нападу на яго казакам. Але корсунскі палкоўнік Мазыра не паслухаўся Ждановіча, пачаў не ў час падаваць сігналы агнём тым казакам, якія плылі па Дняпры, і тым сапсаваў план Ждановіча. Літоўцы не былі захоплены знянацку і адбілі напад.

**Калектыў рэдакцыі часопіса «Маладосць» выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніку рэдакцыі, пісьменніку Віктару Гардзею з выпадку трагічнай смерці СЫНА.**

